Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ЛіМ

ISSN 0024-4686

№ 42 (4791) 24 кастрычніка 2014 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны з 70-годдзем з дня заснавання. «Заслугоўвае высокай ацэнкі той факт, што ваш калектыў уносіць важкі ўклад у процідзеянне фальсіфікацыі гісторыі, вядзе актыўную работу па патрыятычным і духоўна-маральным выхаванні грамадзян, спрыяе кансалідацыі грамадства», — адзначана ў віншаванні.

✔ Маладзёжны беларуска-расійскі сімфанічны аркестр у пачатку лістапада дасць канцэрты ў Казані, Маскве, Мінску і Магілёве. Калектыў арганізаваны ў 2008 годзе па ініцыятыве Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы і Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Выступленні аркестра сталі своеасаблівай візітнай карткай саюзных праектаў у галіне маладзёжнай культурнай палітыкі.

✔ У БНТУ адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця інстытута Канфуцыя па навуцы і тэхніцы. Партнёрам БНТУ выступіла адна з вядучых тэхнічных ВНУ КНР — Паўночна-Усходні ўніверсітэт. Паводле намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Анатоля Тозіка, сістэма інстытутаў Канфуцыя ў нашай краіне забяспечыць навучальнае, навуковае і інфармацыйнае суправаджэнне ўсяго комплексу двухбаковых адносін Беларусі і Кітая.

✔ Саліст Вялікага тэатра Беларусі тэнар Павел Пятроў удастоены II прэміі III Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Мусліма Магамаева, які прайшоў 18 — 19 кастрычніка ў Маскве. Маладому выканаўцу прысуджана таксама спецыяльная стыпендыя Фонду Уладзіміра Співакова.

✔ Беларускамоўная песня «Сокал» у выкананні Надзеі Місяковай прагучыць 15 лістапада ў горадзе Валета, падчас дзіцячага музычнага форуму «Еўрабачанне-2014». Абноўленая аранжыроўка зрабіла кампазіцыю больш дынамічнай. Пад новае гучанне карэкціруецца танцавальная частка нумара.

✔ Выстаўка сучаснага выяўленчага мастацтва «Асенні салон» прайшла ў Парыжы з удзелам творцаў нашай краіны. Адбылася дэманстрацыя моды з удзелам беларускага дызайнера Ларысы Нуры-Шакінка, якая выклікала вялікую цікавасць французскай публікі. Таксама былі прадстаўлены работы маладой беларускай мастачкі Алены Ветрыён-Макарэвіч.

✔ 4 лістапада Белтэлерадыёкампанія запрашае на гала-канцэрт «Музычны скарб Беларусі», прысвечаны 89-годдзю Беларускага радыё. Арганізатары канцэрта, які пройдзе ў Белдзяржфілармоніі з удзелам папулярных музыкантаў, артыстаў і калектываў, абяцаюць гледачам яркае і запамінальнае відовішча з выкарыстаннем сучасных тэхналогій.

✔ Музыканты з Германіі, Польшчы, Швейцарыі, Румыніі, Харватыі, Расіі і Беларусі бяруць удзел у XIX Міжнародным фестывалі арганнай музыкі «Званы Сафіі», які праходзіць у Полацку. Праграма форуму ўключае 9 канцэртаў: першы адбыўся ў сценах старажытнай Сафіі 12 кастрычніка, апошнія акорды прагучаць 23 лістапада.

Фота Кастуся Дробава



# ПАДМУРАК ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

*Бібліёграф Глеб Сафроненка ды загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Валерый Герасімаў за фарміраваннем выстаўкі «Вялікія бітвы беларусаў: ад паходаў на Візантыю да Першай сусветнай вайны», адкрытай у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.*

Чытайце на стар. 14 ▶

# Свята кнігі і чытача

У Германіі прайшоў традыцыйны міжнародны кніжны форум — 66-ы Франкфурцкі кніжны кірмаш. Літаральна сотні выдавецтваў з многіх краін свету дзяліліся сваімі набыткамі апошняга часу. Пра некаторыя ўражанні з кірмашу і пра Германію кніжную — у справаздачы нашага карэспандэнта.

### ШТО ЦІКАВІЦЬ З БЕЛАРУСКАГА?

Логіка ўдзелу ў падобных кніжных кірмашах зразумелая тады, калі ты разумееш, што збіраешся паказаць свету ды што ўзяць на ўзбраенне, якія кантракты заключыць, што прывезці па завяршэнні на радзіму.

У Франкфурце-на-Майне беларускія кнігавыдаўцы, паліграфісты і кнігагандляры прыглядаліся да чужога досведу, чужых здабыткаў, шукалі навінкі і дзівосы. І стараліся падзяліцца нечым сваім. Напрыклад, з кніжнай прадукцыі, выдадзенай па-руску і па-беларуску ў Мінску, гасцей і наведвальнікаў кірмашу ў Франкфурце цікавіла ў большай ступені пазнавальная, гісторыка-асветніцкая, мастацкая, даведачная літаратура. З кніг Выдавецкага дома «Звязда» — філакартычны альбом «Падарожжа ў часе» (вядомая серыя "У пошуках страчанага»), альбом-манаграфія «Партызанская зброя», «кніга «Апошні прытулак салдата». Што цікава, у Франкфурт па традыцыі прыязджаюць прадстаўнікі, супрацоўнікі самых розных буйных бібліятэк. Яны і з'яўляюцца пакупнікамі тых выданняў, якія раней адкрылі для сябе праз інтэрнэт. Высновa? Любую кнігу трэба шырока прапагандаваць праз усемагчымыя электронныя крыніцы. Веданне, рэклама нараджаюць попыт.

З цікавасцю наведвальнікі аглядалі выданні, якія расказваюць пра беларускае мастацтва, архітэктуру. Безумоўна, на кірмашах такога фармату патрэбна літаратура, якая б расказвала пра сваю краіну на нямецкай мове. Ці, на крайні выпадак, была выдадзена па-англійску. Відавочна, розныя па сваім сацыяльным статусе ці чытацкім узроўні наведвальнікі цікавіліся англійскімі і нямецкімі кнігамі, падарожнымі альбомамі, даведнікамі пра Беларусь. Такога кшталту выданняў не хапае. Яны патрэбны як паветра, бо развіваюць стасункі, нараджаюць цікаўнасць да незнаёмай ці маланаёмай краіны.

«Звязда» прадставіла вядомую і раней кнігу Алены Брава «Дараванне», выдадзеную на трох мовах — беларускай, рускай, нямецкай. Відаць, сёлета, у год 100-годдзя Першай сусветнай вайны, трэба было б выдаць па-нямецку і «На імперыялістычнай вайне»?.. Альбо выдаць славутую аповесць Максіма Гарэцкага ў адной кнізе з вядомым раманам "На Заходнім фронце без перамен" Эрыха Марыі Рэмарка?.. Здаецца, былі б запатрабаваныя і творы Васіля Быкава на нямецкай мове. Мяркуючы па працы на стэндах калег з іншых краін свету, многія выдавецтвы стараліся прадставіць сваю нацыянальную мастацкую літаратуру.

### ШТО ПРЭЗЕНТАВАЛІ КРАІНЫ СНД?

Не ўдалося знайсці на выстаўцы прадстаўнічых стэндаў многіх краін СНД. Відаць, свае ўплывы аказала тая палітычная сітуацыя, якая склалася ва Украіне. Бо раней украінскі стэнд быў даволі ўражальным, знаёміў літаральна з сотнямі кніжных навінак. Ды і Расія была значна болей прадстаўнічай, чым сёлета.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Свята кнігі і чытача

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Заўважнымі былі кніжныя памкненні Узбекістана, Казахстана, Азербайджана. І па працы на стэндах, і ўвогуле па руплівасці іх прадстаўнікоў у час выставачнай праграмы. Казахстан пазнаёміў наведвальнікаў з вялікай праграмай у звязку з выданнем 100-томнай кніжнай серыі, прысвечанай народным фальклорным здабыткам. Кнігі, выдадзеныя асобнай бібліятэкай у прыватным выдавецтве «Фаліянт» (дырэктар — Нурлан Ісабекаў), знаёмяць з народным эпасам «Каза Корпеш» (ён займае некалькі тамоў), іншымі запісамі, якія дагэтуль не выдаваліся альбо былі вядомыя шырокаму колу чытачоў толькі часткова, фрагментарна. Такія праекты сведчаць пра ўзровень развіцця гуманітарнай навукі ў краіне, пра памкненні нацыі да выразнай самаідэнтыфікацыі. Асобна казахстанская кнігавыдаўцы прэзентавалі кнігі Немата Келімбетава, выдадзеныя на казахскай, рускай, азербайджанскай, узбекскай, турэцкай і беларускай мовах. Сярод актыўных удзельнікаў рэалізацыі цэлага праекта па знаёмстве са спадчынай пісьменніка і літаратуразнаўцы Н. Келімбетава на мовах народаў свету — пісьменніца, доктар філасофскіх навук, заслужаны дзеяч культуры Казахстана Райхан Мажэнкызы. З ёй і ўдалося пагаварыць пра маштабы праекта. Вось што адзначыла спадарыня Райхан:

— Келімбетаў літаральна крочыць па ўсяму свету. Мужны чалавек, які большасць сваіх твораў напісаў у няпростым фізічным стане і сёння сваім лёсам уражвае людзей усяго свету, заклікае кожнага з нас шукаць у самім сабе неверагодныя рэсурсы для пераадольвання фізічных і духоўных выпрабаванняў. Канечне ж, калі хвароба прыкавала яго да ложка, ён і фізічна, і духоўна пакутаваў, але і з неверагоднай сілай, неверагодным імпэтам працаваў. Як вынік — мастацкія творы, гісторыка-літаратурныя даследаванні. Аповесцю Немата Келімбетава «Не хачу губляць надзею» ўжо зацікавіліся перакладчыкі з многіх краін. Мы рады, што кніга выйшла і ў Выдавецкім доме «Звязда» у Беларусі.

Цікавасць выклікала ў наведвальнікаў выстаўкі і праца на азербайджанскім стэндзе. Вядомы паэт Чынгіз Аліаглу, якога сёння па многіх публікацыях ведаюць і ў Беларусі, правёў цікавую прэзентацыю, прадстаўленне класічнай азербайджанскай паэзіі праз знаёмства з Мірза Шафі Вазехам. Гэтага класіка сёлета асабліва ўшаноўваюць у Азербайджане, адзначаючы 220 год з дня яго нараджэння. Яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя яго вершы былі перакладзены на вядучыя еўрапейскія мовы, у тым ліку і на нямецкую. Паэзія Мірзы Шафі Вазеха — гэта і асаблівая філасофія, выкладанне азербайджанскага мастацкага светапогляду.

### ЯДНАЕ СЛАВЯНСКІ СВЕТ

Вельмі актыўна працавалі на выстаўцы славянскія краіны: Польшча, Славенія, Боснія, Сербія… Асабліва вылучаліся стэнды Сербіі. Кнігі гэтай краіны, традыцыйна ўважлівай да прадстаўлення нацыянальнай літаратуры ў свеце, былі прадстаўлены на агульнадзяржаўным стэндзе і на стэндзе прыватнага выдавецтва «Крэатыўны цэнтр». Вельмі шмат дзіцячай літаратуры было паказана аўтарамі, выдаўцамі. Хацелася б адзначыць і такую адметнасць. Сербскія арганізатары стэнда выдалі даведнік, прысвечаны вядучым нацыянальным пісьменнікам. Інфармацыю ў ім змясцілі на некалькіх мовах. Дакладней — зрабілі некалькі выпускаў аднаго і таго ж даведніка: на сербскай і нямецкай, на сербскай і англійскай, на сербскай і рускай, на сербскай і кітайскай мовах. Якраз такое выданне спрыяла знаёмству, дазваляла зрабіць першыя крокі да ўсталявання кантактаў. Выдавецкі дом «Звязда» прадставіў калегам з Сербіі выданне «Францыск Скарына на мовах народаў свету». У адной кнізе сабраны пераклады верша Скарыны на 62 мовы народаў свету. На сербскую пададзены тры пераклады. Гэта не магло не зацікавіць выдаўцоў славянскай краіны. Дарэчы, «Звязда» у свой час выдала кнігу вядомай сербскай пісьменніцы Грозданы Олуіч у перакладзе на беларускую мову Івана Чароты. А зусім нядаўна — кнігу казак славянскіх народаў «Ні на небе, ні на зямлі», дзе дастойна прадстаўлена і Сербія. Несумненна, перакладныя праекты спрыяюць развіццю стасункаў, дазваляюць прыводзіць да чытача новых іншаземных аўтараў, пашыраюць і пісьменніцкі кругагляд праз пераклады. А ў выдавецкім коле з'яўляюцца новыя імёны.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**
**Германія, г. Франкфурт-на-Майне**

# Творцы на суботніку

Усталічным мікрараёне Кунцаўшчына гожым восеньскім ранкам нарадзіўся новы парк — імя Уга Чавеса, і адбылася гэта падзея менавіта падчас гарадскога суботніка. Агульнымі намаганнямі яго заклалі прадстаўнікі пасольстваў Венесуэлы, В'етнама, Казахстана, гарадскіх улад, грамадскіх арганізацый і палітычных партый. Займаліся добраўпарадкаваннем тэрыторыі і сталічныя літаратары. Гэта старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэт Міхась Пазнякоў, паэтэсы Аліна Легастаева, Вольга Сакалова, Анастасія Кузьмічова, Іна Фралова, пісьменнікі Юрась Нераток, Адам Шостак, Валерый Чудаў. Далучылася да творчага актыву і загадчык дзіцячай бібліятэкі № 15 Ірына Дзевалтоўская.

**Ганна СТАРАДУБ**

*За падзеяй*

# Тры актавы таленту

**Вечар памяці народнай артысткі Беларусі Святланы Данілюк адбыўся ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Імпрэза «Горними тихо летела душа небесами» была прымеркавана да 75-годдзя з дня нараджэння опернай спявачкі.**

Канцэрт складаўся з песень і музыкі з рэпертуару Святланы Данілюк у жывым выкананні сучасных артыстаў і архіўных запісах. Шмат гучала ўспамінаў — сяброў, калег, родных таленавітай жанчыны, чыё каларатурнае мецца-сапрана з поўнымі трыма актавамі стала легендай опернага мастацтва ў СССР.

Святлана Данілюк магла выконваць любыя партыі, але любіла харызматычныя, глыбокія, драматычныя ролі. Сярод іх — Кармэн у аднайменнай оперы Бізэ, Любаша ў «Царскай нявесце» Рымскага-Корсакава, Паліна ў «Пікавай даме» Чайкоўскага, Разіна ў «Севільскім цырульніку» Расіні ды інш. Гэтыя ролі, сугучныя яе характару, прайшлі з ёй праз усё жыццё. Толькі Вольгу з «Яўгенія Анегіна» Чайкоўскага яна не любіла — казала, што гэтая дзяўчына занадта інфантыльная і бестурботная.

Максім Федасееў, сын Святланы Данілюк, падчас імпрэзы распавёў пра асноўныя падзеі з яе жыцця, творчыя дасягненні, рысы характару. «Святлана Данілюк нарадзілася ў Кіеве ў 1939 годзе ў вельмі беднай сям'і. Бацька сышоў на вайну і не вярнуўся. Маці адна выхоўвала дваіх дзяцей — дачку і сына, малодшага брата Святланы. Жылі яны ў камунальнай кватэры, дзе было шмат суседзяў, у тым ліку даволі шумных, і абставіны зусім не спрыялі творчасці», — распавёў М. Федасееў. Імпульсам для маленькай Святланы стала «Месяцовая саната» Бетховена, пачутая дзяўчынкай па радыё. Пасля восьмага класа школы будучая артыстка паступіла ў Кіеўскі кінатэхнікум. Адначасова з вучобай Святлана Данілюк удзельнічала ў студэнцкай самадзейнасці, дзе яе заўважылі і запрасілі ў кансерваторыю на праслухоўванне.

Лёс склаўся так, што ёй дазволілі працаваць і фарміраваць свой рэпертуар у Пермскім оперным тэатры, а не ў родным Кіеўскім. Стымулам для далейшага руху ў творчасці стаў удзел у конкурсах. У Савецкім Саюзе патрабаванні да спевакоў былі вельмі высокія, а пераможцы прыраўноўваліся да алімпійскіх прызёраў. Святлана Данілюк, тым не менш, стала лаўрэатам III Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя Глінкі і дыпламантам III міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага. Пасля спявачка з поспехам гастралявала па ўсім СССР і нават па Еўропе.

Супрацоўніцтва з Беларускім оперным тэатрам, куды яе запрасілі ў 60-я, доўжылася 20 гадоў. Гэты перыяд яе творчасці найбольш плённы. Акрамя асноўнага рэпертуару прыма выконвала творы беларускіх кампазітараў, саліравала ў нацыянальных операх.

Пасля, з 1986 года і да канца жыцця, артыстка не выступала ў пастаноўках, але актыўна займалася канцэртнай дзейнасцю, працавала ў Белдзяржфілармоніі, выкладала.

Паводле заслужанага артыста Беларусі Віктара Скорабагатава, госця імпрэзы, Святлана Данілюк была жанчынай з царскай пастаццю, але разам з тым — вельмі абаяльнай і шчырай: «Яе прыродны дар дазваляў, выходзячы на сцэну, не проста спяваць, а даносіць да гледачоў свае думкі. Яна адчувала кожную партыю на ўзроўні сапраўднай актрысы».

У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адкрытая выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці Святланы Данілюк, дзе можна пабачыць асабістыя рэчы, сцэнічныя касцюмы і фотаздымкі артысткі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Купалінка» ў Дагестане




Фота Наталлі Асмолы

*Рагнед Малахоўскі прывёз з Махачкалы дыплом Выдавецкаму дому «Звязда» за кнігу «Апошні прытулак салдата» і самыя добрыя ўражанні пра кнігавыданне ў Дагестане.*

У Махачкале ў сценах Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Дагестан імя Расула Гамзатава прайшоў III кніжны кірмаш «Таркі-Тау-2014». Ініцыятыву родапачынальніка кірмашу, мастака і галоўнага рэдактара газеты «Горцы» Марата Гаджыева падтрымала Міністэрства культуры Дагестана, Міністэрства друку Расіі, Міністэрства па справах моладзі, Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва ДНЦ РАН, дагестанскі філіял Расійскага фонду культуры і Каўказскі дом перакладаў. Кірмаш можа цалкам абгрунтавана звацца міжнародным: для ўдзелу прыехалі выдаўцы і пісьменнікі з розных расійскіх рэгіёнаў, а таксама з Беларусі, Кыргызстана, Туркменістана, Ірана і Грузіі. На выстаўцы прадставілі навінкі больш як 15 выдавецтваў з усёй Расіі, сярод іх — Дагестанскае кніжнае выдавецтва, «Мавраевъ», «Эпоха» ды іншыя. Беларусь прадстаўляў Выдавецкі дом «Звязда».

Прэзентацыі выдавецтваў і кніг, круглыя сталы і абмеркаванні, сустрэчы з пісьменнікамі, флэшмобы, выстаўкі карцін і фатаграфій, дзіцячыя мерапрыемствы — гэта былі дні калейдаскопа падзей, незвычайнай феерыі свята. Бібліятэка звінела дзіцячымі галасамі, гучалі бардаўскія песні, праходзіў паказ мод, былі адкрыты фотавыстаўка грузінскага акцёра і сцэнарыста Арчыла Кікодзэ «Кіно», выстаўка маскоўскага мастака Алега Пірбудагава, «Летні пленэр: Італія, Аўстрыя, Чэхія, Польшча, Расія» Каспійскай мастацкай школы. Кірмаш не змясціўся ў будынку бібліятэкі — яго мерапрыемствы праводзіліся і ў Дагестанскім дзяржаўным універсітэце, і ў Доме дружбы, і ў ВНУ, і ў школах сталіцы Дагестана.

У межах кірмашу прайшлі захапляльныя творчыя сустрэчы з пісьменнікамі Рыгорам Віхровым, Цімурам Раджабавым, Набі Ісаевым, Рагнедам Малахоўскім, Саідам Ніналалавым, Ільёй Ільіным, Марыяй Сямёнавай, Анастасіяй Строкінай, Аляксандрам Снегіровым, Кацярынай Мурашовай. Аўтары і выканаўцы бардаўскіх песень Віктар Леанідаў і Вольга Нікіціна сваімі выступленнямі стварылі цёплую душэўную атмасферу, а пісьменнік з Бішкека Мікалай Шульгін уразіў гасцей выкананнем «Купалінкі» на беларускай мове.

Прайшоў і літаратурна-музычны фестываль «Агні Таркі-Тау-2014» з удзелам прадстаўнікоў школ усіх муніцыпалітэтаў рэспублікі. Школьнікі прадстаўлялі музычныя нумары, тэатральныя сцэнкі, танцы, чыталі вершы і ўрыўкі з твораў. Адмысловай з'явай кірмашу стала кніга («Літаратурна-мастацкі праект "К"»), выпушчаная Каўказскім домам перакладаў і групай літаратараў і мастакоў — удзельнікаў кніжнага кірмашу. Па словах складальніка альбома Марата Гаджыева, канцэпцыя «К» названа па першай літары слова Культура, але для аўтараў «К» набыло самастойнае значэнне, якое адбілася ў тэме і назве твора.

Выдавецкі дом «Звязда» прэзентаваў і падараваў Нацыянальнай бібліятэцы серыю кніг «Сугучча сэрцаў», а Нацыянальная бібліятэка, у сваю чаргу, перадала Беларусі кнігі дагестанскіх пісьменнікаў. З Каўказскім домам перакладаў была падпісана дамова аб супрацоўніцтве ў галіне мастацкага перакладу, адным з пунктаў якой з'яўляецца выданне альманаха сучаснай дагестанскай паэзіі на беларускай мове.

Гран-пры «Таркі-Тау-2014» атрымала «Паэма пра сэнсы» ў трох тамах персідскага паэта эпохі Сярэднявечча Румі, што выйшла ў маскоўскім выдавецтве «Веча». Ганаровы госць і старшыня журы — літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, пісьменніца Марыэта Чудакова — высока адзначыла кнігу-пераможцу ў намінацыі «Слова» — «Последний приют солдата» Выдавецкага дома «Звязда».

2015 год у Расіі абвешчаны Годам літаратуры, а значыць, IV Міжнародны кніжны кірмаш у Махачкале «Таркі-Тау» павінен атрымацца яшчэ больш маштабным.

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

# Фэст вулічных… фарбаў

**Прэс-канферэнцыя, прымеркаваная да пачатку праекта бразільска-беларускага стрыт-арт фестывалю *Vulica Brasil*, адбылася ў сталічным Цэнтры Сучасных Мастацтваў.**


Фота з сайта realt.onliner.by

*Узор сталічнага стрыт-арту.*

Другі сакратар Пасольства Бразіліі ў Беларусі Даніла Тэафіла Коста зазначыў, што праект створаны ўсяго за тры месяцы, а стрыт-арт абраны таму, што гэты від сучаснага мастацтва вельмі папулярны ў Бразіліі. Адметна, што ў Мінску такі праект рэалізуецца ўпершыню. Каб пазнаёміць і зблізіць творчыя супольнасці Беларусі і Бразіліі, да ўдзелу запрошана каля 20 мастакоў з Ліды, Пінска, Рэчыцы, Оршы ды іншых гарадоў нашай краіны.

Праграма свята не абмяжоўваецца роспісам сцен. Яна ўключае шэраг іншых цікавых мерапрыемстваў. Прыкладам, Міла Котка, прадзюсар фестывалю, распавяла, што 8 лістапада на сталічнай плошчы Якуба Коласа адбудзецца інсталяцыя бразільска-беларускага горада. Паводле дырэктара Цэнтра Сучасных Мастацтваў Наталлі Шаранговіч, галоўная ідэя праекта — паказаць, што стрыт-арт сапраўды ствараюць прафесійныя мастакі.

Сучасны стрыт-арт — гэта не толькі графіці, але і постары, інсталяцыі, адзначыла Каміла Янушкевіч, загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Пра дзейнасць суполкі SIGNAL распавёў яе кіраўнік Алег Ларычаў. Падчас прэс-канферэнцыі слова бралі кіраўнік аддзела развіцця і праектаў кампаніі Condor Аляксандр Шульговіч, а таксама ўдзельнікі *Vulica Brasil* — мастакі Валтэр «Tinho» Намура (Сан-Паўлу), Ражэрыя Фернандэс (Бэлу-Арызонці) і Яўген Мацюта (Cowek) з Ліды.

**Яна ЯВІЧ**

# Лёсы, поўныя падзей

**Паэтычны арт-хаўс праект члена СПБ Людмілы Клачко «Пацеркі» адбыўся ў межах імпрэзы мастака Уладзіміра Кустава «Арт-Вешалка» ў сталічным Музеі гісторыі ДТСААФ.**

Папярэднічала праекту пастаноўка народнага тэатра «Жывая планета» Артура Забалотнікава «Валодзінскія партрэты» па матывах твораў савецкага драматурга, сцэнарыста і паэта Аляксандра Валодзіна: сем жанчын, сем лёсаў, у кожнай — свая няпростая гісторыя…

«Я права лишь в одном: // Из людей вышли яркие бусы...» Гэтыя радкі Л. Клачко быццам увасабляюць працяг (а можа, развязку) сюжэта спектакля. «Пацеркі» — гэта развагі пра сувязь людзей, пра нітку, якая іх злучае, пра месца творчага чалавека ў штодзённым вірлівым жыцці. Але паэтэса не спрабуе навязаць гледачу свае погляды або пераканаць яго ў нечым. Яна сама — са сцэны — спрабуе пераканацца ў правільнасці гэтых поглядаў. Вершы, падзеі, метафары... Кароткія гісторыі пра чалавечыя стасункі, пра творчыя і душэўныя пакуты, у рэшце рэшт — пра лірычную адзіноту... Усё гэта — непарыўныя «Пацеркі».

У праекце Людмілы Клачко вельмі ўдала выкарыстаны музыка і харэаграфія. Акрамя самой аўтаркі, у пастаноўцы былі занятыя юныя танцоўшчыкі, што падкрэсліла пластычнасць, дынамізм, «гнуткасць» яе лірыкі. Песні на вершы Людмілы выканаў малады кампазітар Сяргей Бутоўскі.

**Дана ХОДНІЧ**

# Настаўнік-зямляк

Некалі вучань Патапаўскай сярэдняй школы Буда-Кашалёўскага раёна Анатоль Зэкаў дасылаў першыя вершы і апавяданні ў часопіс «Бярозка», дзе працаваў яго зямляк Мікола Чарняўскі, які, па сутнасці, і стаў для малодшага сябра літаратурным настаўнікам.

Настаўнік і вучань не забываюць малую радзіму: прыязджаюць на сустрэчы з землякамі, прэзентуюць новыя кнігі. Вось і нядаўна завіталі сюды — была прыемная нагода: Міколу Чарняўскаму, як ужо паведамляў «ЛіМ», рашэннем сесіі раённага Савета дэпутатаў нададзена пачэснае званне «Ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёўскага раёна».

У карціннай галерэі імя Яўсея Майсеенкі, дзе ўшаноўвалі слыннага земляка, на ўрачыстасць сабраліся школьнікі, настаўнікі, бібліятэкары, жыхары райцэнтра. Пасведчанне і памятную стужку Мікалаю Мікалаевічу ўручыла старшыня райсавета Алена Алексіна. У адрас новага ганаровага грамадзяніна гучалі песні ў выкананні мясцовых артыстаў, пажаданні далейшай плённай працы на карысць літаратуры і Бацькаўшчыны.

А перад гэтым пісьменнікі наведалі Буда-Люшаўскую і Патапаўскую школы, дзе ў свой час вучыліся. І ў школах, і ў цэнтральнай раённай бібліятэцы на ўспамін пра сустрэчы засталіся кнігі з аўтографамі вядомых землякоў.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Рытмы горада і юнацтва

**«Літаратурная серада ў музеі Петруся Броўкі» — новы праект, які стартаваў сумесна з парталам *Textura.by*, — безумоўна, варты ўвагі! Сучасныя беларускія паэты і празаікі аб'ядналіся на адной пляцоўцы ўжо ў другі раз, каб праз творы падзяліцца сваімі развагамі.**

Чытачы, у сваю чаргу, атрымалі цудоўную магчымасць пачуць галасы аўтараў і ўбачыць іх вочы, поўныя натхнення. Такім чынам, праект павінен стаць своеасаблівым мастком паміж сайтам і публікай.

Гумарыстычным аповедам вечарыну адкрыла выкладчык, журналіст, пісьменніца Ганна Севярынец. Слова бралі перакладчыцы Валерыя Дзямідчык і Ліна Казакова, пісьменнік, культуролаг, рэдактар Сяргей Календа. Асабліва ўразіў сваімі вершамі студэнт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Яўген Бясчасны. У яго радках быццам сталіся моцныя энергетычныя хвалі «вострай» рэалістычнасці, трагізму і гумару.

Па словах галоўнага рэдактара і стваральніка партала *Textura.by*, паэта і ініцыятара праекта Андрэя Фаміцкага, літаратурная серада — гэта не толькі дзень, але і асяроддзе для існавання.

Трэба нагадаць, што партал *Textura.by* — месца, дзе кожны аўтар мае магчымасць заявіць пра сябе. Адзіная ўмова — каб літаратурныя творы былі сапраўды якаснымі ды глыбіннымі.

Паэзія, проза, драматургія, аналітычныя агляды, інфармацыя пра культурныя падзеі — усё гэта можна знайсці на старонках сайта.

Сустрэчы аматараў і стваральнікаў якаснай літаратуры ў музеі імя Петруся Броўкі мусяць стаць пастаяннымі і праходзіць прыкладна раз у месяц.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пад спевы струн

У сталічнай бібліятэцы № 14 імя Ф. Багушэвіча адбылася сустрэча з паэтам, публіцыстам, галоўным дырэктарам радыё «Беларусь» Навумам Гальпяровічам. Дзень імпрэзы супаў з Пакровам Прасвятой Багародзіцы і Днём Маці. Таму вечарына атрымалася тэматычнай: многія вершы былі прысвечаны матулям.

Да правядзення імпрэзы спрычыніліся старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэт, публіцыст Міхась Пазнякоў і галоўны спецыяліст МГА СПБ, паэтэса Іна Фралова. Гасцямі сталі студэнты сталічных каледжаў, аматары творчасці пісьменніка. Атмасфера ў бібліятэцы была цёплай і сяброўскай. Навум Якаўлевіч чытаў уласныя вершы, узгадваў розныя выпадкі з жыцця і сустрэчы з цікавымі людзьмі. З асаблівай цеплынёю паэт гаварыў пра родны Полацк.

Лірыка Навума Гальпяровіча мілагучная. Нездарма шмат яго вершаў пакладзена на музыку. Падчас імпрэзы свае песні на словы паэта выканалі барды Аляксей Нежавец і Наталля Нікіціна.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Для маладых

20 кастрычніка Генеральны дырэктар Вялікага тэатра Беларусі Уладзімір Грыдзюшка і рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка прафесар Аляксандр Жук падпісалі Дамову аб супрацоўніцтве ўстаноў, якая будзе спрыяць развіццю ў моладзі глядацкай культуры і павышэнню цікавасці да тэатра. Дзякуючы сумеснай ініцыятыве студэнты і выкладчыкі адной з вядучых айчынных ВНУ, якая сёлета адзначае стагоддзе з дня заснавання, змогуць пазнаёміцца з пастаноўкамі Вялікага тэатра. У планах — творчыя сустрэчы салістаў оперы і балета з будучымі педагогамі, сумесныя культурна-асветніцкія акцыі.

**Іна ЛАЗАРАВА**

# Аб'яднаемся па-мастацку!

У сталіцы мяркуецца стварыць клуб творчай інтэлігенцыі, куды ўвойдуць дзеячы літаратуры і мастацтва. Мэты клуба — нефармальныя стасункі членаў розных творчых саюзаў, падтрымка новых праектаў, значных для сучаснага айчыннага мастацтва, праектаванне ноу-хаў ў сферы культурна-эстэтычнай дзейнасці, а таксама цеснае супрацоўніцтва са СМІ. Да рэалізацыі асобных праектаў мяркуецца далучаць і бізнес-структуры.

У планах — вечары адпачынку, капуснікі, віншаванне юбіляраў, паездкі па краінах блізкага і далёкага замежжа, наведванне спектакляў, выставак, дыскусіі, «круглыя сталы», канферэнцыі па пытаннях мастацтва. Арганізацыйны сход адбудзецца 29 кастрычніка а 19-й гадзіне ў канферэнц-зале Палаца мастацтва (вул. Казлова, 3).

**Галіна МАХАЕВА, мастацтвазнаўца, аўтар праекта**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**26 кастрычніка** *— на свята духоўнай паэзіі і песні, якое адбудзецца ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў Палацы культуры прафсаюзаў (пр. Незалежнасці, 25). Пачатак на 16-й гадзіне*

**29 кастрычніка** *— на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы», якое пройдзе ў дзіцячай бібліятэцы №15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак на 17-й гадзіне.*

**29 кастрычніка** *— на свята духоўнай паэзіі і музыкі, прысвечанае Дню маці. Мерапрыемства адбудзецца ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў Акадэміі мастацтваў (пр. Незалежнасці, 81). Пачатак на 15-й гадзіне.*

Беларускі саюз мастакоў смуткуе ў сувязі са смерцю ЯСТРАБА Франца Адамавіча, члена грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў», вядомага мастака, які ўнёс вялікі ўклад у развіццё і прапаганду беларускага выяўленчага мастацтва. Рада ГА «БСМ» выказвае спачуванне родным і блізкім у сувязі з напаткаўшым іх вялікім горам.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Віцебскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта, публіцыста і перакладчыка ПУХАЕВА Аляксандра Спірыдонавіча і выказваюць глыбокія спачуванні яго родным і блізкім.

Іна ФРАЛОВА



## Назіркам

***

*Мы — Людзі,*
*Сапраўдныя дзівакі перад Богам:*
*Спачатку ў падмурак сваёй хаты*
*Кладзём Чортаў камень,*
*А потым наракаем на лёс,*
*Не знаходзячы ў хаце Шчасця.*

***

*Калі сэрцы нашы*
*Перастануць біцца суладна —*
*Мой дзень збляднее:*
*Я не змагу, як раней,*
*удыхаць радасць,*
*Каб расквеціць сваё*
*жыццё цудоўнымі фарбамі,*
*Бо гэта радасць льецца з душы тваёй.*

***

*На збегу лета назіраю,*
*Як яшчэ не пабітыя*
*жоўцю бярозавыя лісточкі*
*Заўзята трапечуць на ветры.*
*Хочуць*
*памерці*
*маладымі.*

***

*Кожны раз, калі чую,*
*Як душу чыюсьці параўноўваюць*
*з калодзежам,*
*Адразу ўзношу ўдзячныя малітвы Богу*
*За колішнюю магчымасць наталіць смагу.*
*Але перад тым, у чый калодзеж*
*і плюнуць было шкада,*
*Без роспачы зачыняю*
*дзверы памяці.*

## Работа над памылкамі

*Змяняючы словы з жыццёвага правіла*
*«Не растрачваць сябе на людзей*
*з беднай ачэзлай душой»*
*на «Нават шкада*
*падаваць міластыню...»,*
*Задумалася над тым,*
*Ці ж памудрэла я,*
*ці толькі памяняўся сэнс,*
*Калі мяне гэта акалічнасць*
*яшчэ закранула?*

## Вочы ў вочы

*Па дарозе дамоў*
*У аўтамабільным люстэрку*
*Увесь час трымаю позірк твой.*
*І цераз сябе, як праз сіта,*
*Прасейваю ўвесь клопат дня мінулага,*
*Каб пасля разам ахінуцца ціхай радасцю,*
*Якую я вярнула*
*вачам тваім.*

***

*Паэзія...*
*Ці не з'яўляецца яна кодам доступу*
*Да разумення чалавечай існасці?*

Анатоль ЗЭКАЎ



## Проста так

*Проста так я аднойчы сустрэну*
*у натоўпе людскім твой пагляд*
*і ў той міг зразумею напэўна,*
*што няма мне больш шляху назад.*

*Проста так запрашу цябе ў госці,*
*каб сядзець ля цябе і ўздыхаць,*
*баючыся сказаць тое штосьці,*
*што так хочацца ўсё-ткі сказаць.*

*Проста так абдыму твае плечы,*
*проста так прыгарну да сябе,*
*баючыся параніць хоць нечым*
*і пакрыўдзіць хоць нечым цябе.*

*Проста так буду марыць пра тое,*
*пра што марыць не варта зусім,*
*бо не можа таго быць з табою,*
*як і я не магу быць тваім.*

*Проста так правяду на тралейбус*
*і рукой памахаю,*
*аднак*
*буду доўга разгадваць, як рэбус,*
*ці здараецца ўсё проста так.*

***

*Тваё працяжлівае «не»*
*на ўсе мае жаданні*
*такой пяшчотай ахіне,*
*што я з замілаваннем*
*і ўдзень яго ўжо, і ўначы*
*прыкладваў бы да вуха,*
*бо пакуль «так» тваё маўчыць,*
*я й «не» шчаслівы слухаць.*

***

*Ну, хто сказаў, што гэта пройдзе —*
*і мы расстанемся? Няпраўда!*
*Твой пацалунак так салодзіць,*
*што п'ю без цукру я гарбату.*

*Ну, хто сказаў, што не бывае*
*кахання гэткага? Мана ўсё!*
*Я гэтак сам цяпер кахаю,*
*хоць толькі днямі*
*ў тым прызнаўся.*

*Ну, хто сказаў, што знікне гэта*
*і што ў кахання век кароткі?*
*А я і сам таго не ведаў,*
*што можна так*
*кахаць усё-ткі.*

***

*Гукну цябе — і толькі рэха*
*з далечы той мне адгукнецца,*
*з якой аднойчы сам я з'ехаў,*
*каб больш ніколі не сустрэцца.*

*О, як яно душу праніжа,*
*і як кальне мне ў сэрца болем,*
*што ўміг захочацца быць бліжай,*
*каб не расстацца больш ніколі.*

***

*Калі мяне пакінеш назусім*
*і ўселіцца ў душу самота,*
*тады Анёлам стану я тваім,*
*тваім ахоўнікам заўсёдным.*

*Шчаслівай будзеш —*
*я не падыду,*
*твайму не перашкоджу шчасцю.*
*А трэба будзе —*
*адвяду бяду*
*і адхіну усе напасці.*

*Мяне не ўбачыш,*
*не адчуеш ты,*
*ды ўсё-ткі ведай, што я побач*
*і да цябе гатоў ляцець заўжды,*
*калі спатрэбіцца,*
*на помач.*

***

*Я не магу цябе спыніць,*
*як не магу спыніць імгненне,*
*хоць і не ведаю,*
*як жыць*
*на гэтым свеце*
*без цябе мне.*

*І будзе ўсё, як і было,*
*бы й не змянілася нічога.*
*Жыццё звяло і развяло.*
*У кожнага —*
*свая дарога.*

*І, як раней, мы будзем жыць,*
*бы важнае штосьці не сказалі*
*ля той, няпройдзенай мяжы,*
*дзе, развітаўшыся, стаялі.*

Марына ЦАНДА



## Твой позірк

*Валошкі адбіліся ў маіх*
*Вачах зелянковых.*
*Зажмурылася —*
*цемната…*
*Расплюшчыла вейкі*
*І, зноў жа,*
*Мой любы, харошы,*
*Твой нябесна-валошкавы позірк*
*Заблукаў у зрэнках*
*Майго замілавання.*

## Па-новаму

*Разбежнасць лёсаў.*
*Аб'яднання*
*Ужо не будзе ні на міг.*
*Спагады нам для шкадавання*
*Усё ж не хапіла на дваіх.*

*Зіма… Вясна… А потым вечнасць.*
*Знарок пяшчота заіскрыцца.*
*Дазволь закрэсліць недарэчнасць,*
*Каб зноў па-новаму ўлюбіцца.*

## Наадварот

*Не верыць і маліцца,*
*Забыць дзеля чакання.*
*Са шчасцем не мірыцца*
*Пры ўяўнасці вяртання.*

*Ісці з жальбой насустрач,*
*Пры стрэчы ж усміхнуцца.*
*Да дрыжыкаў нязручна*
*Усё ж, ды размінуцца.*

*Згасаць цаной разлукі*
*Не горда і нясмела.*
*Туліць да вуснаў рукі*
*З пяшчотаю няўмела.*

*Шукаць і не знаходзіць*
*У словах паратунку.*
*Баяцца перашкодзіць*
*Адзінству ў пацалунку.*

*Скажы: нашто замкнёнасць,*
*Калі душа трапеча,*
*Калі сама ўлюбёнасць*
*Любові не пярэчыць?!*

## Запозненае прызнанне

*Загадкава-узлётна*
*Зімовы дзень плыве,*
*Прыцішана-ўтрапёна*
*Наперакор журбе.*

*Сустрэча. Абяцанні.*
*На вуснах толькі смех.*
*Запознена прызнанне*
*Злілося ў першы снег.*

*Лаві маю сняжынку*
*Пад перазвон вятроў,*
*Кранаючы галінку*
*Увішных снегіроў.*

*Мяцеліцай заручаны*
*З таемнасцю паўслова.*
*Няйначай, як навучаны*
*Ўспрымаць усё нанова.*

## Дотык

*Устаю на дыбачкі*
*І, нібыта з лёгкасцю балерыны,*
*Цягну рукі ўверх.*
*Хачу дакрануцца*
*Кончыкамі пальцаў*
*Зусім не да шчодрага сонца,*
*А да тваіх вуснаў,*
*Бо менавіта яны*
*Дораць пацалункам*
*П'янкую ўзаемнасць*
*Нашага кахання.*



Фота Кастуся Дробава

Марыя РУДОВІЧ

# Тры фантастычныя гісторыі



## ЧУЖЫ

Ён бег следам, увесь час імкнуўся наўздагон, і грубыя чаравікі то праставалі па лужынах, патанаючы ў гразкім месіве, то, слізгаючы на сакавітай траве, з'язджалі з мокрых ад дажджу грудкоў, пакуль нарэшце не спыніліся на высокім абрыве ля халоднага мора. Ён працягнуў мне акуратныя лапікі жоўта-зялёных палёў у шызай смузе, намагаючыся дацягнуцца сваімі вострымі званіцамі, зацурчэў ручаінамі ды атуліў пахамі веснавых кветак, хоць вакол ляжала шэрань і панаваў змрок, і надзьмуў ветразі сваіх караблёў. Ён цягнуўся ўверх, спяшаўся, не паспяваў, заставаўся ззаду.

— Вяртайся! — крычаў ён. — Ты чуеш?! Што гэта за выбрыкі?! Зараз жа вяртайся! Неадкладна!

— Бывай, — ціха сказала я, — заставайся і бывай.

— Праз гадзіну!..

— Да сустрэчы...

— Праз дзень!..

— Будзь шчаслівы...

— Ну, добра, праз месяц!..

— Бывай, бывай...

— Ты што ўздумала?! Праз год...

Ля Пастуховага Куста бездапаможна мітусілася Старая Ведзьма, якая наважылася была ляцець на пярэймы. Шэрая чапля ля Доўгай Вады насцярожылася і сумна зірнула кудысьці ўверх, і ў Купальнай зале пачуўся гук абцасікаў — хтосьці танчыў менуэт. На Зялёным Пагорку сонечны прамень праслізнуў раптам паміж двума невялічкімі дэльфінамі, застыў на тоненькай рысачцы, і з вышыні зваліўся чырвоны шар: на імгненне — усяго толькі на імгненне — спыніўся час.

Мы сустрэліся з ім, калі шасцёра праўнукаў Блаславёнага Ворана аднойчы прымусілі мяне выправіцца ў далёкі шлях да Белай Гары.

— Аднак жа ты не спяшалася, — незадаволена адзначыў ён, прыдзірліва аглядаючы мяне ледзянымі вачыма, але адразу ж схапіў за руку і пацягнуў на Адміралаву плошчу. Цікаўныя вавёркі — гарэзы з празрыстымі хвастамі —рушылі следам, утвараючы зладжанае шэсце. Паперадзе крочыла варона. Неўзабаве прыбегла і вогнена-рудая ліса, але адразу схавалася ў зарасніку: хітрунка мела свае клопаты. Увaход вартавалі львы, а недарэчны сіні певень відавочна пачуваўся нядобра ў суседстве са славутымі асобамі і насельнікамі падводных глыбінь. Дзьмуў халаднаваты вецер, струменілася блакітная вада, і русалкі глядзелі кудысьці ўбок. Чатырнаццаць каменяроў зрабілі сваю справу: пераможца быў на месцы. Пакручастыя прыступкі паступова ператварыліся ў шэрую мазаіку, рыпела падлога, а змрочныя дубовыя сцены асвятляў агонь з каміна. Прывідныя цені, лёгкія ўсмешкі, ганарлівыя вочы — валадары. Чужыя войскі, чужыя штандары, чужая слава. Аксамітавыя камзолы, тугія каўнеры, пантофлі з бантамі. Шыкоўныя капелюшы, шаўковыя стужкі, аголеныя плечы і карункі, карункі, карункі... «Вось яны... — ціха прамовіў ён, — ...гаспадары... асцярожна... зірні налева... вунь той... на кані... ты яго заўсёды шкадавала... а там... абедзве сястры... і трэцяя побач... і чырвоная заслона... а вось жаўтазель і ружа... ружа і жаўтазель... не бачыш? а карані моцна пасплятаціся... і зусім непадалёк гэты... што ўзрушыў асновы... прасты чалавек... а вось гэты... так і не знайшоў таго, што шукаў... рагоча... а гэта — так, так, ты не памылілася — гэта яна... Зялёныя Рукавы... і зноў сякера напагатове... а там... скрозь золата і каштоўныя камяні... і пачцівыя кавалеры... і позірк сумны... не дагэтуль шануюць». Чужыя імёны, чужыя жаданні, чужыя памкненні. Шаўцы ў майстэрнях, краўцы ля станкоў, гандляры на вуліцах. Алхімік у змрочным скляпенні, прыгожая дама ля вакна, вясёлая кампанія ў карчме. Чужыя мары, чужыя сны, чужы смутак. Бразготка вартаўніка, шарманка жабрака, узбраенне рыцара. Разлалаваная кошка, спалоханыя птушкі, закінуты млын. Чужыя краявіды, чужыя селішчы, чужыя гарады. Сяляне, пастухі, воіны, каралі. Чужое жыццё, чужыя стагоддзі.

Дзесьці за светам — далей і шляхоў ужо не было — хвалявалася мора ля даманавых берагоў, грознай эскадры магутных караблёў спадарожнічаў вецер, і сігнальшчыкі ўглядаліся ўдалячынь, пільнуючы даўняга ворага. Камандуючы на мосціку кепска бачыў, але дзяржава спадзявалася, што кожны выканае свой абавязак. «Вашамосць, гэты дзень ваш...» — прамовіў хтосьці ў змроку. Пасля на поўнач ляцелі пераможныя рэляцыі, і сын свєтара зрабіў крок да неўміручае славы, а побач у цемры ззялі вочы Эмы — славутай і невядомай.

Плыў туман. Вавёркі — сквірэл, сквірэл — завялі сумятню, разбегліся ў розныя бакі, зноў згуртаваліся, заскакалі-затанчылі. З высокай вежы раптам саскочыла сарока, застракатала, бліснула вокам, штосьці панесла ў дзюбе. Шчаўкунок у чырвонай камізэльцы запаліў свечкі на Рынку, пайшлі ў наступ мышы, заплакалі агеньчыкі на ёлцы. «Дзінь-дзілінь, — тоненька азваліся званочкі горнай краіны, — карова, авечка, пастух. Дзінь-дзінь — сабака, дзяўчынка, млынар».

«Бім-бом... — адказаў гадзіннік, што глядзеў на чатыры бакі свету і ўслаўляў Творцу. — Бомбім... і сіла Яго ахоўвае нас...»

Лагодна пасміхнулася ў цемры рака, штосьці прашаптала-прамармытала, думаючы пра сваё, і лёгка кінула хвалі на бераг.

«Вялікае пачынаецца з малога, — на мяне зноў глядзелі халодныя вочы. — Залаты дракон... чырвоная пашча... можа многа сказаць пра тое... калі захоча...» Але дракон абачліва маўчаў.

Барвовае змярканне ператварылася ў густую цемру, варухнуліся доўгія цені, у Зялёным Лесе праступілі старажытныя вежы. Некага высочвала ліса, воран вартаваў дах.

«Серада... серада... — ціхутка прамовіў мой спадарожнік. — Львы абудзіліся, і палымнее ружа... конь скача праз ноч і квітнее дзядоўнік... струны напяліся і трылеснік трымціць... давай руку... не бойся... вось так... смялей... а цяпер паглядзі вунь туды...» Выгнуліся высокія шпілі, скрывілася азёрная люстра, далёка ўнізе заблішчэла вада, і закруціўся свет. У лагодным святле Месяца бліскалі маланкі, гарэў агонь, грукатаў гром. У запаветным гушчары паказалася кола, следам бег бык — адзін жораў на галаве і два на спіне, — а пасля выступілі баран і каза. Мудрыя птушкі — Той, хто думае і Той, хто памятае, — распасцёрлі крылы, узняліся ў вышыню і зніклі ў паветры, але зараз жа з'явіліся ваўкі — Хцівы і Ненажэрны. Звяры ўздзелі лапы ўверх, штосьці заспявалі ў карагодзе, пасля адышліся ў цень, зніклі адзін за адным.

На мяне зноў зірнулі ледзяныя вочы: «Гэлькі абуджаючца... лаза ідзе ў рост... Ячнае Зерне трапіла ў глебу... а там Святы Павел... прытуліся да сцяны... скажы што шэптам... і я пачую на тым баку... трымайся мацней... і ніколі не пытай, па кім звоніць звон... а гэта «гурок»... карнішон... а вось Цюльпанавая Лесвіца...» — ён раптам засмяяўся і шпурнуў у ваду каменьчык. Той з гучным пляскам знік з вачэй.

— Ты хочаш застацца? — нечакана спытаў ён.

— Не.

— Чаму?

— Не ведаю, але не хачу.

— А-а, ну канечне! На поўдні ж твой улюбёнец! Чакае! Раскінуўся на ўсе бакі! Песціцца, як кот на цёплым беразе! Зух! Чараўнік! То на гару ўзбяжыць, то ў нізіну абрынецца, то вусы падкруціць, то вочы прымружыць, то спявае, то падскоквае! А штукарствы, а хітрыкі, а забаўкі! То надухмяніцца, у пагулянку кінецца, то надзьмецца як мыш на крупы, бойку распачне! То вежу ўзнясе, то чэрава знясе! А жарты, а выкрунтасы! А што за прыгоды — не перадаць: то іспанка, то цыганка! Прыгажунчык! Адно слова — ветрагон! Вось ужо дзе сапраўды «ўбачыць і памерці»! Але ж ты так любіш...

— Ты лепшы за яго.

— Хм, табе не дагадзіць...

Ён крыху памаўчаў, пра штосьці думаючы, а тады працягнуў пацеркі з буйных жамчужын — цьмяна заблішчэлі ў змроку цяжкія каралі, пагрозліва набліжаючыся да шыі, мільганула змяіная ўсмешка жанчыны ў старадаўніх строях, і я адштурхнула яго рукі.

Раптам заспяваў, загаварыў, заплакаў чорны раяль. У прыгожай, але халоднай зале гучала шчымлівая мелодыя — стрымана, павольна, не спяшаючыся. Шумеў векавечны бор, ішлі ў наступ ліцвінскія палкі.

Гукі ўзмацняліся, тонкія пальцы беглі па клавішах.

Над змрочным горадам і Цёмнай Ракой гучала польская казка.

Рака сцішылася, прыслухалася, а тады пабегла шпарчэй, цягнучы караблі, штурхаючы лодкі, кідаючы з боку ў бок баржы — яна была вялікай працаўніцай і не ведала стомы на сваім шляху. Акорды луналі над чужымі мурамі, над чужым натоўпам, над чужой гаворкай. Старажытная брукаванка бегла ўсё далей ад чужога парога, спяшалася, блыталася, кружляла па вуліцах і завулках, кіруючыся да праліва.

— Бывай... мы яшчэ сустрэнемся...

— Але ж... ты... навошта... вось кветкі квітнеюць...

— Бывай, дарагі...

— Ты не падумала... паразважай... заставайся...

— Да пабачэння... можа, аднойчы... калі-небудзь...

— Вяртайся!.. — ён бег следам.

## УЧАРАШНІ ДЗЕНЬ

Я шукаю ўчарашняга дня. Ён кудысьці знік — дзесьці стаіўся, зашыўся ў куток, цішком наблізіўся да лесвіцы, скокнуў цераз парог, а я не заўважыла, і ён вышмыгнуў за дзверы. А можа, яго сцягнуў кот ці з'елі мышы. Ён уцёк, калі я абірала бульбу і гаварыла па тэлефоне. Прыгожы, поўны веснавога цяпла і ранішняга халадку, радасці і надзеі, ён адчыніў акно ў квітнеючы сад і падарыў мне шчасце птушынага палёту. Ён хацеў адкрыць таямніцы быцця, пачуць голас далёкай галактыкі і знайсці новую зорку на небасхіле, ён прынёс мне палотны славутых майстроў і прапанаваў страпянуцца, азірнуцца, закахацца — нават прыпынак пасунуў да майго дома і павярнуў вуліцу да майго ганка. Але... я абірала бульбу і гаварыла па тэлефоне. Пра чужога хамячка, пра суседку суседа стрыечнага брата траюраднай пляменніцы мажнай цёткі з другога паверха, пра начальніка намесніка дырэктара крамы з гароднінай насупраць маіх вокнаў, пра шрубкі-шпунтышайбы-ўтулкі-гайкі-заклёпкі ды іншыя самалёта-вылеты выкрутных шасцярэнек, а яшчэ пра галёшы, што вісяць над бездання. Ён не захацеў чакаць і пайшоў за гарызонт.

Я шукаю леташні снег. Ён дзесьці падзеўся — уцёк, растаў, выпарыўся, праслізнуў у вадасцёк, схаваўся ў падваротні. А можа, яго пазлізваў бадзяжны сабака ці выкінула дворнічыха. Ён збег, калі я варыла буракі і глядзела тэлевізар. Ён даверліва апусціўся на мой парог, і яго халоднае цяпло магло ўратаваць ад маразоў і завірухі роднае поле, абараніць кволыя парасткі, ухутаць векавы бор. Ён пагуляў па вуліцах і завулках, панавешваў празрыстых ледзяшоў на галінкі і ліхтары, упрыгожыў двор, прыцерушыў елкі ў парку і хацеў па сінім лёдзе мчаць да паўночнага ззяння, але я кінула бліскучыя сняжынкі пад ногі чужынцаў, і бялюткая чысціня стала брудным месівам. Яго вада магла ўвесну напаіць маладую яблыню, ажывіць ручай і падарыць прыгажосць стомленай жанчыне, але... я варыла буракі, глядзела тэлевізар і выплюхнула каштоўную вадкасць у шурпатыя ночвы баязлівасці, у рассохлы цэбар дурных жарсцей, у ржавыя вёдры зайздрасці. Ён знік і ператварыўся ў задушлівы смог, у атрутны дым, у шызыя плямы на знявечаных дрэвах.

Я шукаю ў полі ветру. Ён невядома дзе прапаў — шуснуў за вароты, паспяшаўся за мора, заблукаў у пустыні, абрынуўся ў цясніну. А можа, яго перахапіў едкі дым ці апаліў «град», калі я шаравала чыгуны і падлічвала прыбыткі. Ён уварваўся праз акно, падкінуў уверх фіранкі, перакуліў вазон і прысеў на падаконнік. Ён быў цікаўны і небачлівы, дзёрзкі і на дзіва малады. Гарэза закруціў вятрак, ператвараючы спелыя зярняты ў добрую муку, узняўся пад самыя нябёсы і спалоханыя хмары аддалі перасохлай зямлі жыццядайныя патокі вады, надзьмуў сонечныя ветразі і расказаў пра Вежу вятроў, дзе марудлівыя кроплі павольна адлічваюць час. Прынёс водар медуніцы і паклікаў мяне ў Каламату, але... я шаравала чыгуны і падлічвала прыбыткі. За высечаны лес, за прададзены дом, за змарнаваны час. Ён кудысьці паляцеў, і я не ведаю, дзе яго шукаць. Можа, ён трапіў у пастаўленыя сеткі антэн ці заблытаўся ў павуцінні рэтрансляцыйных вышак. А можа, параніў мяккія крылы аб захламлены балкон, зачапіўся за ржавы цвік і гаротна вісіць, не маючы сіл вызваліцца.

Нарэшце я спахапілася і кінулася наўздагон, але дзень ішоў хутчэй, чым бегла, снег знік жвавей, чым я працягнула руку, а вецер ляцеў шпарчэй за мае думкі. І вось аднойчы я апынулася на самым краёчку зямлі.

— Дзе дзень? — спытала я.

«Табе было дадзена святло, а ты ператварыла яго ў цемру. Што ты тут робіш?» — адказала Сонца.

— Дзе снег?

«Ты мела невымоўную чысціню, а зрабіла яе рыззём. Навошта ты прыйшла?» — прамовіла Гара.

— Дзе вецер?

«Перад табой ляжаў роўны шлях, а ты збочыла на крывую сцяжыну. Чаго ты хочаш?» — заракатаў Вялікі Акіян.

Сонца зайшло, Гара схавалася ў аблоках, Вялікі Акіян патануў у змроку.

Я шукаю ўчарашняга дня, я шукаю леташні снег, я шукаю ветру ў полі.

## НЕ ТАК

Не так гляджу, не так гавару, не так іду, не так бягу, не так пішу, не так спяваю, не так атрымліваю, не так чытаю, не так малюю, не так праганяю, не тое ведаю, не так разумею, не туды прыязджаю, не адтуль з'яўляюся, не так крычу, не так думаю, не так хачу, не так разважаю, не так чую, не так бачу, не так пытаю, не так адказваю, не пра тое дазнаюся, не тое ведаю, не так смяюся, не так плачу, не так лятаю, не туды ўрываюся, не там валюся, не туды ўзнімаюся, не так знаходжу, не так губляю, не так гартаю, не тое кідаю, не так клічу, не так стукаю, не тое люблю, не так маўчу, не так адчыняю, не так зачыняю, не так складаю, не так лічу, не там вандрую, не адтуль еду, не туды вяртаюся.

Дзе я?

## Надрукавана ў «Маладосці»

# Жыццё не цукар

*«Ён прагнуў нажывы, а з ёй — свабоды...»*

Алёна Беланожка як пісьменніца, схільная да прыгод і авантуры, зрабіла героем апавядання «Кава з цукрам» маладога чалавека сумнiўных якасцей, які нечым нагадвае Астапа Бэндэра, праўда, не ў канчатковым, вядомым усім, варыянце, а «ў зародку».

Санжык, юнак сямнаццаці-васямнаццаці гадоў, хутка скеміў, што да чаго ў філістарскай рэальнасці. Усё, што займае розум хлопца, — грошы. Не задавальненне, не прыгоды, не каханне, не самасцвярджэнне — толькі грошы. Аднак яны не з'яўляюцца самамэтай: імі юнак хоча здабыць свабоду.

Аўтарка не асуджае героя (прыстойныя пісьменнікі даўно так не робяць), нават сімпатызуе, хоць і не адкрыта. Мастак будзе любавацца ўсякім сваім стварэннем, дык чаму б не палюбавацца рашучым, энергічным, прадпрымальным хлопцам? Сімпатыя адчуваецца не ў характарыстыках, якія аўтарка дае герою, але ў самой інтанацыі апавядання. Вы адчуваеце, што ў такіх абставінах герой і не мог паводзіцца інакш, а з цягам дзеі сімпатыя толькі расце.

Разам з тым чытачу можа падацца, што ён чуе лёгкае пакепліванне з высокіх каштоўнасцей і мудрых суджэнняў. Так, бацька павучае Санжыка: «Трэба ўкладваць сродкі ў маладосць, а не ў старасць: так больш шанцаў, што яны вернуцца і памножацца. Адукацыя — лепшы ўклад». На жаль, вырваныя з кантэксту, гэтыя словы губляюць іранічную афарбоўку, але хоць бы адценне яе застаецца. І вось тут трэба быць уважлівым: пісьменніца іранізуе не з самой думкі, але з людзей, якія выказваюць яе з залішняй урачыстасцю, паўтараюць бяздумна і не раз, так што і сама думка абясцэньваецца.

Увогуле, да іроніі, нязменна прысутнай у кожным творы Алёны Беланожкі, трэба ставіцца асцярожна, не прымаць яе легкадумна, бо наўрад ці пісьменніца хоча проста пасмяшыць будучага чытача. Калі б так, сюжэт «Кавы з цукрам» не меў бы такога бязрадаснага, хоць і рэалістычнага, завяршэння.

Вяртаючыся да героя, варта дадаць, што сімпатыю ён выклікае яшчэ і таму, што большасць чытачоў — яго супрацьлегласці: спакойныя, часам ленаватыя, разважлівыя, асцярожныя і г. д. Калі чытачу і не захочацца быць падобным да героя, то захапіцца ім ён можа.

Пра аддаленае сваяцтва Санжыка з Астапам Бэндэрам сведчаць алюзіі, выкліканыя выказваннямі кшталту: «Перабраўшы ў галаве ўсе магчымыя варыянты атрымання капіталу, Санжык выбраў самы, на яго погляд, хуткі, лёгкі і акуратны». Упэўненая, калі б герой не быў абмежаваны сюжэтам, зададзеным пісьменніцай, ён цалкам змог бы вырасці да паўнавартаснага жуліка. Увогуле, стыль А. Беланожкі — хлёсткі, дакладны, поўны яркіх праз сваю навізну параўнанняў — вельмі нагадвае стыль Ільфа і Пятрова, хоць — думаю, аўтарка сама гэта ведае — пакуль не дасягае тых жа вяршынь.




...Санжык у пагоні за грашыма прайграе бацькоўскі капітал, купляе на астачу латарэйны білет і, канечне ж, нечакана выйграе, ды не абы-што, а падарожжа ў будучае — на суткі.

Чытач, які чакае фантастычных апісанняў, будзе расчараваны: праз сто год нічога не змяніцца. З аднаго боку, гэта можна патлумачыць нежаданнем аўтаркі выдумляць нешта і скакаць вышэй за галаву, з іншага — яе ўпэўненасцю, што чалавецтва да таго зляпуецца, што нічога новага вынаходзіць не стане. З апошнім можна паспрачацца. Тым часам іншы прагноз сумненняў не выклікае: чалавечая скваппнасць застанецца нязменнай.

Канечне, невялікае апавяданне нельга называць антыўтопіяй, але матывы апошняй у «Каве з цукрам» відавочныя: дзеці пачынаюць працаваць з дзесяці гадоў; агульная гуманітарная адукацыя дарэшты абясцэньваецца («Добрая прафесія заўсёды пракорміць, а доўгая вучоба — для лайдакоў, якія не хочуць працаваць. У інтэрнэце можна знайсці любую інфармацыю, нашто губляць сем-восем гадоў на ўніверсітэт?»); умовы працы становяцца больш жорсткімі (пакаёўка прызнаецца герою: «калі з вамі нешта здарыцца, то мне зробяць тое ж самае!»).

Сутнасць жа новага свету заключаецца ў наступным: «Калі Незалежная фармацэўтычная кампанія вынайшла танны сродак, які лечыць цукровы дыябет на генетычным узроўні, і пералячыла ім амаль усіх дыябетыкаў, пачалася Цукровая вайна. Па яе выніках Незалежная фармацэўтычная кампанія была ліквідавана, а ўсе правы на выраб цукру перайшлі да фармацэўтычнага альянсу «МедЭЯ», які раней меў вялікія прыбыткі ад продажу інсуліну. Цяпер альянс мае (здымае — **Н. Г.**) не меншыя прыбыткі ад продажу цукру і прэпаратаў, якія паніжаюць узровень інсуліну ў крыві. Цукар заканадаўча аб'яўлены лекавым сродкам. Дэпутаты з гэтага маюць «салодкую датацыю» — да мандата прымацаваны кілаграм цукру на месяц. Цукар у наш час — мера раскошы. Падпольны выраб і збыт цукру караецца расстрэлам на месцы».

Было б вельмі смешна, калі б не было так сумна. І апавяданне магло б быць цудоўнай сатырай, калі б у ім не знайшлося месца сапраўдным ахвярам і крыві.

Вось тут і ўзнікае непаразуменне, выкліканае неадпаведнасцю стылю і зместу. Сюжэт разварочваецца вокамгненна, «як у кіно!» — словамі самога ж героя, і насамрэч трагічныя падзеі проста не паспяваюць разгарнуцца. Хутчэй за ўсё, такая лаканічнасць і «кадравасць» выкліканы ўплывам прафесіі пісьменніцы. У той час, як у іншых творах усе гэтыя характарыстыкі — хуткасць, яркасць, смех і інш. — працуюць станоўча, тут яны абарочваюцца супраць твора.

Справа ў тым, што рэчы, пра якія піша аўтарка, многа больш сур'ёзныя, чым само апавяданне.

Так, хапае драматызму, хапае дэталяў, якія нясуць вялікую сэнсавую нагрузку (у чым таксама выяўляецца талент спадарыні Алёны), хапае афарыстычных выказванняў, у якія аўтар звычайна ўкладае соль твора, але не хапае глыбіні. Гэта як праехаць па старажытным горадзе на экскурсійным аўтобусе: за вакном мільгаюць саборы і палацы, і ты адчуваеш іх хараство, усведамляеш іх значнасць, але не паспяваеш атрымаць асалоду.

Прыгадаць той жа «Чамадан з кракадзілавай скуры», дзе пісьменніца таксама разважае пра «важкія» рэчы: чалавечую адзіноту, тыранію грошай, каханне і г. д. Пры тым, што гэтыя тэмы ўмоўна (!) маюць меншую вагу, чым тэмы, якія падымаюцца ў «Каве з цукрам», аб'ём твора — большы.

У такіх варунках цярпіць і галоўны герой. Ён становіцца падобным да таленавітага акцёра, што атрымаў занадта малую ролю. Санжык, які задумваўся як праваднік думкі аўтара і яго вочы, падчас напісання аповеду нечакана вырас — і патрабуе большай увагі і большай прасторы.

Што ж усё гэта значыць?

Думаецца, апавяданне «Кава з цукрам» — пераходнае звяно паміж ранейшымі творамі Алёны Беланожкі, вясёла-забіяцкімі, хоць і з дамешкам суму, і будучымі. Звычка і выпрацаваны стыль ужо ўступілі ў супярэчнасць з новым, якое перастане прыкрывацца смехам, хоць і захавае горкую іронію. Засталося толькі пачакаць — што пераважыць.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Яшчэ раз пра радзіму

Найбольш папулярны сёння від паэтычных зборнікаў — гэта «салянкі», з вершамі пра любоў ува ўсіх яе нюансах і падвідах, пра Радзіму і радзіму, пра жыццё і яго нягоды і г. д. Кнігі, прысвечаныя адной тэме, выходзяць радзей. Новы зборнік лірыкі Міхася Пазнякова «Наталенне Радзімай» якраз з шэрагу другога.

Ува ўсіх вершах пра Радзіму, якія ёсць у беларускай паэзіі, абавязкова прысутнічае сум, быццам бы гэтая самая Радзіма даўно і незваротна страчаная.

Сум гэты ёсць і ў вершах Міхася Пазнякова, аднак, у адрозненне ад вершаў, якія маюць гістарычную скіраванасць, то бок, аўтары якіх з замілаваннем і тугой азіраюцца назад у пошуках лепшай долі, творы з кнігі «Наталенне Радзімай» маюць больш зямную прыроду. З зямлі яны літаральна вырастаюць — з маленькага лапіка на вялікай планеце, і на лапіку гэтым знаходзяцца вёсачка, адзіная для Міхася Пазнякова і такая падобная да ўсіх іншых беларускіх вёсак, рэчка Грэза, якую аўтар узгадвае ў кнізе не раз і не два, палі і гароды, лясы і лугі, а над усім гэтым сялянскім хараством — чыстае блакітнае неба дзяцінства паэта.

*Не спіцца…*
*Штосьць шапоча дождж.*
*Нібы маланкай,*
*Асвятляе памяць:*
*Я зноў бягу па вёсцы*
*Басанож,*
*Няшчадна*
*Сонца ліпеньскае*
*Паліць…*

Міхась Пазнякоў апісвае, як знікае старая беларуская вёска, як застаюцца пустымі хаты і сплоўваюцца прысады, якія былі часткай дзяцінства, як паміраюць людзі, якія ў памяці паэта паступова губляюць індывідуальнае і становяцца сімваламі — расстання, болю, весялосці, працы, самой вёскі, яе гумару і г. д.

Урэшце, узнікае пытанне: чаму ў назве зборніка сакральнае слова «Радзіма» пішацца з вялікай літары, калі паэт збольшага піша пра вёску як сімвал малой радзімы? Так, часам спадар Міхась выходзіць за яе межы і пачынае разважаць пра лёс краіны, агульначалавечыя праблемы, прыроду пачуццяў і многія іншыя абстракцыі, якія, аднак, ужо не выклікаюць такога жывога водгуку ў душы чытача, які сам (ці ў другім, максімум — трэцім пакаленні) выхадзец з вёскі. Што цікава, нават калі аўтар піша пра Радзіму ў шырокім сэнсе, мы бачым усё тую ж вёску, толькі павялічаную да памераў, адпаведных пафасу твора.

Напрыклад:

*У гэтым свеце найадзіным,*
*Нідзе — ні блізка, ні далёка —*
*Не пагаджуся ні хвіліны*
*Жыць без Радзімы сінявокай.*

Горад, што прадказальна, успрымаецца аўтарам як нешта варожае. Горад і вёска ў вершах Міхася Пазнякова не стаяць побач ці хоць бы паралельна — яны супрацьпастаўляюцца. Калі вёска, зямля выступаюць як крыніца сілы, радасці, самога жыцця, то горад паўстае гэткім энергетычным вампірам, які высмоктвае з чалавека ўсе сокі, так што рана ці позна даводзіцца вяртацца ў вёску.

*З лесу,*
*ад красы і пахаў,*
*Так не хочацца дамоў.*
*Узарвецца ціша птахам,*
*Знікне ў хвалях верасоў.*
*У лазняк, смугой спавіты,*
*Уваходжу, нібы ў дом.*
*Водар мяккі, сакавіты,*
*П'ю, смакуючы, нагбом…*

Пры такім раскладзе зусім не дзіўна, што выміранне вёскі выклікае ў лірычнага героя непадробны сум. Бо калі так працягнецца, знікне не толькі вёска, але і ён сам — у пэўным сэнсе.

Пра што пісаць?

Пра горад? У «Наталенні Радзімай» нязменна чужы, аўтар пачуваецца тут вечным госцем:

*І шчымлівa на гулкіх праспектах,*
*Паміж розных турбот, мітусні,*
*Ўсім нам чуюцца пчолы на кветках,*
*Перапёлчына «травы касі»…*

Здавалася б, вырашэнне праблемы простае: калі горад не прымае (хоць насамрэч гораду ўсё адно), вяртайся ў вёску, жыві шчаслівa, глядзі на светлае неба, а не на шэрыя гмахі. Аднак і гэта немагчыма: «… у бацькоўскім краі цэзій / Пасяліўся на вякі…». Асаблівы трагізм надае гэтым радкам тое, што «на вякі» — гэта не метафара.

І ўсё адно паэт вяртаецца ў выкляты край: «не баязна прыйсці мне / зноў да тваёй тугі…». «Бо я душой і сэрцам / Твой падзяляю лёс,» — так тлумачыць ён сваю смеласць, але прычына глыбейшая: без гэтай зямлі — якой бы яна ні была цяпер — жыцця няма. Тут засталіся не толькі ўспаміны паэта — тут ён пакінуў сябе:




*Старая родная хаціна —*
*Маленства незабыўны кут…*
*Ніхто мне дзверы не адчыніць,*
*Тады каго я клічу тут?..*
*Пчаліным роем — успаміны,*
*Туга пякучая скубе.*
*Заходжу ў змоўклую хаціну*
*І сустракаю сам сябе.*

Наталенне Радзімай — гэта не адзінкавы «акт», пасля якога можна вярнуць страчаную раўнавагу і радасць; гэта вечнае вяртанне, без якога аўтар не ўяўляе сябе.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# «Быць паэтам — і фарс, і драма…»



**«Тое, што не рэалізаваў у тэатры, рэалізоўваю ў жыцці». Пасля заканчэння школы Анатоль Сыс трымаў іспыты ў тэатральна-мастацкі інстытут на акцёрскае аддзяленне, аднак не быў прылічаны да шэрагу студэнтаў, паводле ўласнага меркавання — праз найтрывалейшую беларускую вымову, якую прыёмная камісія палічыла за дэфект маўлення.**

У тым жа годзе (1977) А. Сыс паступіў у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт (аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры), вучыўся разам з Э. Акуліным, В. Куртаніч, А. Бяляцкім, А. Казловым. Аднакурснікі паэта згадваюць, што А. Сыс замест «універсітэт» казаў «універсам». Ён быў упэўнены, што навучыцца паэзіі немагчыма, паэтам альбо нараджаюцца, альбо не, а веды, якія даюцца навучальнай установай, можна атрымаць толькі па ўласным жаданні і выбары.

У першым сваім інтэрв'ю А. Сыс сказаў пра сябе і творчасць так: «Я шмат у чым — тэатр аднаго паэта». Гэтае метафарычнае самавызначэнне можна вылучыць у якасці важкага агульнага сэнсастваральнага канцэпта, утворанага з трох семантычных комплексаў: «тэатр», «адзін», «паэт». Выяўленне іх вобразнай рэалізацыі — магчымасць агледзець паэзію А. Сыса і наблізіцца да разумення складанай, шматграннай асобы творцы.

Канцэпт «тэатр» — шматкампанентны і шматузроўневы, абавязковымі для яго з'яўляюцца матывы пераўвасаблення, служэння і дыстанцыі. Першасным і вызначальным атрыбутам тэатра з'яўляецца пераўвасабленне. У паэзіі праз абранне для лірычнага героя пэўнай маскі аўтар значна паглыбляе сэнсавы змест твора, пашырае кола магчымых асацыяцый. У творчасці Сыса матыў пераўвасаблення рэалізуецца ў вершах-маналогах, дзе адсылка да «тэатра» з'яўляецца праз саму назву. Паэт гаворыць вуснамі беларускіх творцаў, якія не паспелі раскрыцца напоўніцу: А. Гаруна, С. Палуяна, Цёткі, У. Жылкі і інш. Сыс не ўзнаўляе біяграфічныя абставіны іх жыцця, а рэканструюе міфалагічны час, у якім гэтыя постаці ўспрымаюцца ўяўленнем яго сучаснікаў. Паэт апантана выбудоўвае сваю паэтычную іерархію, нязменна ставіць на вяршыню піраміды класікаў беларускай літаратуры. Называе сябе сынам Купалы і братам Багдановіча, падкрэслівае пашану і любоў да гэтых майстроў паэтычнага слова, а таксама творчую пераемнасць.

Матывы служэння і дыстанцыі часта выяўляюцца ў паэзіі Сыса. Адзін з найбольш самапрэзентатыўных і разам з тым вычварных твораў — верш «Вужака», дзе аўтар уяўляе сам сябе перад чытачамі, перад грамадствам. Лірычны герой таксама нібыта ў масцы, ён бачыцца іншымі у выглядзе «цмока», «надчалавечай істоты». Вершы — гэта згрызоты, у выглядзе вужакаў адпушчаныя да людзей. Герой застаецца на самоце: ён адзін, бо яго баяцца.

*і толькі самая звычайная*
*бестурботная*
*раніца сонцам і святлом*
*змывае з мяне*
*гадаў бруд і я бягу і шукаю*
*людзей і тлумачу*
*што вужакі добрыя*
*і разумныя істоткі*
*і што яны не вінаватыя*
*ў сваім падабенстве*
*на гадзюк што іх можна*
*пазнаць*
*па залатой кароне…*

Праз канцэпт адзіноты ў паэзіі А. Сыса выяўляюцца матывы самоты, непаразумення з іншымі (адасобленасці), адзінкавасці (эксклюзіўнасці). У наш час самота лічыцца амаль трагедыяй, і далёка не кожны здатны адчуць яе асалоду, застацца сам-насам са сваім «Я». Але калі самота замяняе жыццёвыя каштоўнасці, яна — атрута:

*Я змярцвеў,*
*хоць чуў вакол прамовы*
*пра каханне, адраджэнне,*
*мову,*
*тосты за Радзіму…*
*Ўсё адно*
*за самоту піў сваё віно.*

А. Сыс пазіцыянуе сябе і як «аблуднага сына», які пакінуў вясковых бацькоў дзеля «тлумнага Мінску». Але ў традыцыйным самадакаранні лірычны герой захлынаецца крывёю:

*і агідны жывёльны лой*
*з гострай брытвы маёй*
*малітвы,*
*быццам гной, патыхаў*
*маной.*

Вострае адчуванне сваёй адзінкавасці ў А. Сыса вызначае стан «аголенасці душы», гранічную, шчымлівую шчырасць з чытачом. Гарманічнае спалучэнне Паэта-аўтара і Паэта-героя дазваляе сказаць, што ўся творчасць Анатоля Сыса пабудавана на дасканалых, інтэграцыйна развітых паэтычных схемах.

Якім быў паэт у творчасці і ў жыцці? На гэты конт засталося нямала вершаваных радкоў і асабістых успамінаў. Але пры ўліку рознага стаўлення, беручы пад увагу і цяжкі характар, і часам непрымальныя паводзіны, і апошнія складана-трагічныя гады жыцця, сябры, знаёмыя і сучаснікі паэта сыходзяцца на тым, што Сыс — гэта стыхія. Неўтаймаваная і неўтаймавальная прыродная з'ява. Цытуем У. Галубовіча: «…Да чалавечага жыцця А. Сыса і да яго паэтычнай творчасці трэба ставіцца не абасоблена, а як да аднаго гарманічнага цэлага ва ўсіх праявах яго стыхійнай сутнасці. Сыходзячы найперш з таго, што ўсё ягонае жыццё і было творчым актам. Натхнёнай суцэльнай імправізацыяй».

Паводле старажытных уяўленняў, чалавек і ёсць не што іншае, як стыхія або спалучэнне стыхій, і ўтварае сапраўднага, існага чалавека. А. Сыс — чалавек агню, пра што яскрава сведчыць і назва яго першага зборніка — «Агмень» (1988), рэдактарам якога была Я. Янішчыц. Варта прывесці словы самога паэта: «Паэзія — гэта інтуіцыя, калі хочаш, імправізацыя па матывах душы. Раптам я кідаю ўсё на свеце. У гэты момант мяне лепш не чапаць. Я сам, як шаравая маланка… Вядома, не заўсёды прыходзяць такія прасвятленні, але большую палову вершаў я напісаў з павышанай тэмпературай». «Шаравая маланка» — надзвычай трапнае самавызначэнне, якое потым сустракаецца ў паэтавых радках не толькі як прыгожы вобраз, але і як выяўленне дэструктыўнага пачатку стыхіі.

*Я думаў,*
*вершы мае відушчыя,*
*аж пакуль не аслепнуў сам*
*ад маланкі, самім жа*
*пушчанай,*
*я гарэў, як бязбожны храм.*

Знішчальная маланка з'яўляецца і ў «Маналогу Рамуальда Жакоўскага»: «спее ў небе маланка, і скроні мае адчуваюць, / як смяротным агнём наліваюцца вены яе». Агонь — сталы вобраз у вершах А. Сыса, гэта лёс, «прага жыцця», «залатое пяро» паэзіі і зрэшты мяккая цеплыня, патрэбная, «каб сагрэць каханую». Апошняе інтэрв'ю, датаванае 2002 годам, мае назву «Я яшчэ не попел і не прысак…» — цытата з верша, што ўвайшоў у апошні прыжыццёвы зборнік «Сыс» (2002).

Такім чынам, у творчасці гэтага аўтара стыхія агню мае першаснае дачыненне да канцэптаў «паэт» і «паэзія». Канцэпт «тэатр» у значнай ступені выяўлены праз аналогі: пераўвасабленне паэта ў складаных, трагічных герояў, напружаная ўнутраная барацьба, стварэнне глыбокага, пафасна прыгожага і пранізліва адзінокага «Я» — праца складаная і ў псіхалагічным плане, і ў літаратурным.

...Мела магчымасць даведацца ад А. Разанава, якім адным словам ці вобразам ён мог бы ахарактарызаваць Анатоля Сыса. «Запалены самалёт», адказаў А. Разанаў. Затым патлумачыў, распавёўшы наступную гісторыю: на ўскрайку вёскі, у якой нарадзіўся і вырас А. Разанаў, месціўся невялікі аэрадром, дзе аднойчы адбыўся трагічны выпадак — самалёт збіраўся заходзіць на пасадку, але раптоўна загарэўся. Дыспетчар забараніў яму прызямляцца: спачатку трэба, каб у баках скончылася паліва, бо інакш, ледзь шасі дакранецца да зямлі, адбудзецца моцны выбух. Вырачаны на згубу самалёт быў вымушаны пэўны час знаходзіцца ў паветры, над аэрадромам — выпальваць дарэшты гаручае, не маючы права вярнуцца, сесці на зямлю. Гэтак і Анатоль Сыс — меў вельмі шмат «паліва» (творчага патэнцыялу, паэтычнага таленту), аднак раптоўна «загарэўся» і быў вырачаны «выгараць» вельмі хутка, часам бязладна, «у паветра». Хацеў узляцець на нечуваную вышыню, здзейсніць сапраўдны «палёт», роўны ягоным магчымасцям, — і не мог. Хацеў вярнуцца на зямлю, дадому — і таксама не мог, бо замінала вялікая колькасць нерастрачанага патэнцыялу, які трымаў яго над зямлёй, бо «нябесны дыспетчар» аніяк не даваў дазволу на датэрміновую пасадку…

**Ліда НАЛІЎКА**

# У далонях кляновых




Ці даводзілася вам бачыць вецер? Скажаце, падобнае немагчыма? У такім разе, кніга лірыкі Наталлі Саветнай (выдавецтва «Чатыры чвэрці») якраз для вас. Яна так і называецца — «Убачыць вецер».

Н. Саветную я дагэтуль ведаў як празаіка з моцнымі публіцыстычнымі матывамі ў творчасці, але разам з тым адчувальная і лірычная плынь, у чым, прынамсі, упэўніла яе кніга «За краем свету». У стрыманым апісанні характараў і падзей часам з'яўляліся так званыя лірычныя адступленні — своеасаблівыя ўсплёскі душы, прыгнечанай прозай жыцця, самой паўсядзённасцю. Адчуваецца жаданне чагосьці новага, што ачысціла б душу, напоўніла б яе святлом.

Бадай, так і нарадзіліся ў Н. Саветнай лірычныя абразкі. А ўслед за імі —вершы, у якіх выказваецца ўсё, што ў абразках выказаць немагчыма.

Міхась Пазнякоў, аўтар прадмовы, трапна зазначыў: «Паэзія Н. Саветнай гучыць так арганічна, што іначай, як заўсёдны стан яе душы, гэтая паэзія не ўспрымаецца. Паэтка прапускае ўвесь вялікі свет праз сябе, каб потым і іншых далучыць да радасці ад судакранання з хараством, якое, магчыма, нехта і не паспеў заўважыць, а цяпер, здзіўлены, шырока раскрывае вочы: вось яна, прыгажосць, побач».

Лірычная гераіня Н. Саветнай паўстае перад чытачом не сталай жанчынай, а дзяўчынкай, якую ўсё ўражвае, радуе. Яна хоча, каб пра гэта даведаліся і іншыя:

*Плыву в ладошках клёнов*
*По водам октября,*
*Качает ветер сонный*
*В судёнышке меня.*

*То борт кренится вправо,*
*То левый волны пьёт,*
*То снова прямо — браво!*
*На вёсла жму — вперёд!*

*Плыву в ладошках клёнов*
*По водам октября*
*К тем берегам зелёным,*
*Где ждут ещё меня.*

Зрэшты, ёсць у кнізе і вершы менш летуценныя, адзін з іх — «Зямля». Тут чытач разумее, што аб'ядноўвае ўсіх нас, робіць не чужымі ў свеце і Сусвеце, дазваляе кожнага адчуць зямлянінам, які адказны і за сябе, і за агульную будучыню:

*Земля, ты плоти каждой продолженье,*
*Приют и сущим, и достигшим тленья —*
*Кто в злобе жил иль жил любя…*
*От гор до дна даришь себя!*
*Ты вся сама — миры и поколенья,*
*Пространство, время, притяженье.*
*Ты — тайна тайн. Источник. Прах.—*
*Хоть шар земной, хоть горсть в руках.*
*И, коли брошено зерно,*
*Твоим теплом взойдёт оно.*

Дзякуючы Н. Саветнай можна ўбачыць поўныя хараства карціны: «*Моет усталая осень // Голые ноги ракит…*», «*Первый день рождённого младенца — // Года нового судьбы моей — // Вытирает чистым полотенцем // Пыль от прошлых, призрачных теней*», «*Деревья сгорбились под тяжестью плодов, // А ветви надломились, застонав, // И словно горький плач, их вдовий зов // Катился спелым яблоком меж трав…*»

Вершы Наталлі Саветнай — гэта паэзія зямная і разам з тым здольная наталіць душу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Калі згасне святло…

**У гэтыя восеньскія дні споўнілася б 75 год вядомаму літаратуразнаўцу, прафесару, настаўніку многіх пакаленняў філолагаў, паэту, перакладчыку, крытыку, руплівам асветніку Міколу Іванавічу Мішчанчуку.**



*Фота Уладзіміра Сеньчанкаўца*

Дарчыя надпісы на кнігах Міколы Іванавіча, яго словы і пажаданні вельмі дарагія і важныя для мяне: «Паважаная Зоя Пятроўна! Дарагі мне чалавек! Сумленніца! З Вамі добра працуецца, З Вамі добра святкуецца. Штохвілінна, штодзень… 25.09.2009 г.»… Пад вокладкай іншай кнігі — імклівыя літаркі, радкі: «…На Добрую Памяць, З верай у Перамогу вечнага над часовым, Боскага над пачварным… Заўсёды з Вамі Ваш Мікола Мішчанчук. 24.11.2009 г.»… Толькі цяпер у поўнай меры ўсведамляецца, што нашая сумесная праца была сапраўды святам, якое засталося з намі і якое мы будзем помніць заўсёды.

75-гадовы юбілей прафесара М. Мішчанчука адзначаць выкладчыкі і студэнты філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. 11 лістапада 2014 г. пройдзе рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Актуальныя праблемы сучаснага беларускага літаратуразнаўства», прысвечаная юбілейнай даце, у ходзе якой будзе абмяркоўвацца навуковая дзейнасць, уклад у адукацыйна-педагагічны працэс Беларусі, зроблены Міколам Мішчанчуком.

Слова — мастацка-ўзнёслае, акадэмічна-навуковае, публіцыстычна завостранае, крытычнатрапнае — было прафесіяй і лёсам Міколы Іванавіча. Ён быў сябрам і калегам першых прафесараў філалагічнага факультэта тады яшчэ Брэсцкага педінстытута — У. Калесніка, В. Зарэцкай-Ляшук, А. Майсейчыка, Г. Малажай.

Дзякуючы намаганням рэктара і самога Міколы Іванавіча ў Брэсцкім універсітэце быў адкрыты Савет па абароне кандыдацкіх дысертацый па філалагічных навуках, старшынёй якога і стаў апошні. Сёння ў Беларусі прызнана навуковафілалагічная школа прафесара М. І. Мішчанчука, прадстаўнікі якой ужо сказалі сваё слова ў літаратуразнаўстве.

На асобу Міколы Іванавіча «адзываліся» і прыязджалі ў Брэст для ўдзелу ў працы Савета па абароне і на навуковыя форумы аўтарытэтныя вучоныя: акадэмік НАН Беларусі У. Гніламёдаў, членыкарэспандэнты НАН Беларусі М. Мушынскі, В. Рагойша, А. Лойка, А. Мальдзіс, вучоныя з усіх універсітэтаў краіны.

Мікола Іванавіч адразу стаў любімым выкладчыкам студэнтаў, кумірам калег, бо літаральна выпраменьваў дабрыню і зычлівасць, меў сапраўдную беларускую шляхетнасць, нястомнасць у працы з моладдзю. У студэнцкай аўдыторыі ён працаваў заўсёды з натхненнем: не шкадаваў эмоцый, ніколі не быў «сухім акадэмістам», узрушаўся, расчульваўся, а часам і абураўся шчыра, да слёз.

Літаратура была яго паклічаннем. Яго лекцыі па беларускай, рускай літаратуры, па спецыяльных дысцыплінах былі запамінальнымі, незвычайнымі; кожны пісьменнікі лёс, пра які ішла гаворка, ён прапускаў праз уласнае сэрца. Ён напісаў вельмі многа літаратуразнаўчых даследаванняў, у якіх асэнсаваў лёсы і творы большасці беларускіх пісьменнікаў ХХ стагоддзя, у тым ліку і пісьменнікаў-эмігрантаў, рэпрэсіраваных творцаў.

«…На Добрую Памяць, З верай у Перамогу вечнага над часовым, Боскага над пачварным… Заўсёды з Вамі Ваш Мікола Мішчанчук. 24.11.2009 г.»…

Мікола Мішчанчук быў выдатным спецыялістам і па рускай літаратуры, даследчыкам лірыкі Я. Баратынскага, творчасці Д. Кедрава, Б. Карнілава і інш.; зрабіў выдатныя пераклады твораў рускіх, польскіх паэтаў на родную мову.

Прыгадваецца наша сумесная падрыхтоўка да яго 70-гадовага юбілею. Мікола Іванавіч, бы прадчуваючы, што часу напярэдадзе мала, клапаціўся пра выданні новых кніг — манаграфій «Класіка — сучаснасць — перспектывы» (Брэст, 2009), «Чатыре портрета» (Брэст, 2009), «Русская литература ХХ века» (Мінск, 2009; дзве апошнія ў суаўтарстве з І. М. Гоўзіч), апошняй кнігі паэзіі «Струна надзеі» (Брэст, 2009). Мы здзіўляліся яго працавітасці, творчай актыўнасці, акрыленасці. Ён запрасіў у Брэст сваіх сяброў, калег, вучняў з розных ВНУ Беларусі. Мы разам рыхтавалі выстаўку яго публікацый, планавалі праграму канферэнцыі. Атрымалася вельмі запамінальнае свята. І свята гэтае было не асабіста Міколы Іванавіча, але навукова-педагагічнай грамадскасці Беларусі. Думаю, ён быў вельмі шчаслівым у тыя дні.

У апошні час Мікола Іванавіч ахвотна расказваў пра сябе, сваё жыццё: дзяцінства, студэнцкія гады, вучобу ў Мінскім дзяржаўным педінстытуце імя Горкага, пра «рамантыку асваення цаліны». У яго згадках многа было жартаўлівага, сапраўды цікавага. Мы прасілі Міколу Іванавіча пісаць успаміны, бо перажытае ім у 1950-я — 1960-я і наступныя гады патрэбна сучаснай моладзі, будучым пакаленням, гэта, урэшце, наша гісторыя. І былі ўсцешаны, калі ён пачаў пісаць аўтабіяграфічныя абразкі, «асацыяцыі», якім даваў абагульненую яскравую назву — «Чым душа жывая…».

Маладосць душы, шчырасць пачуццяў і выказванняў Мікола Іванавіч захаваў на ўсё жыццё. І гэтыя якасці ў яго светаўспрыманні былі хораша згарманізаваны жыццёвай мудрасцю, акадэмічнай вывеpанасцю, прафесарскай стрыманасцю.

Звычайна Мікола Іванавіч прыносіў на творчыя сустрэчы са студэнтамі свае кнігі паэзіі, вельмі ўзрушана, артыстычна чытаў вершы, абразкі, пераклады любімых паэтаў з рускай, польскай літаратур. У фінале такіх сустрэч ён, як правіла, памайстэрску, экспрэсіўна чытаў верш «Праметэй»:

*Пазбаўлены зроку, далёка,*
*Прыкуты да чорнай скалы,*
*Ён стаў усёбачным пракорам*
*Зялёнай планеты — Зямлі.*
*…Зноў сэрцы прабітыя болем,*
*Не толькі сваім, навылёт,*
*І думкі вядуць нас на волю*
*І клічуць у смелы палёт.*
*…Апошняе прыйдзе імгненне,*
*Жыццёвы закончыцца шлях,*
*І станем мы кропляй сумлення*
*Зялёнай планеты Зямля.*

І ўсе прысутныя разумелі, што радкі гэтыя не толькі пра любімага героя.

Я не памылюся, калі скажу, што галоўнай гераіняй яго паэзіі была маці. У гэтым аблічы, як у вобразах Багдановічавых мадоннаў, выразна бачыцца трыядзінства: дзяўчынка, каханая, матуля.

Мікола Іванавіч расказваў пра драматычны лёс мамы, Ганны Апанасаўны, пра гісторыю свайго нараджэння — у Амурскай вобласці, у сям'і высланых беларускіх сялян…

Адкрыйце апошнюю кнігу паэзіі «Струна надзеі»! Яна пачынаецца вершам «Пад маміным дрэвам прысяду», дзе выразна прапісаная ідэя жыцця самога Міколы Іванавіча. Сама назва верша ўтрымлівае глыбокія гуманістычныя архетыпы — матуля, сын, дрэва, затым з'яўіцца вобраз-архетып свечкі, матывы прычасця, малітвы… Дарослы сын душою і думкамі размаўляе з мамай, размаўляе з вечнасцю і з намі. Тое ж — у вершах «Мама, я без цябе…», «Мама, я вінаваты…», «Калі згасне святло, можна зноў запаліць…»

Вобраз самаахвярнай руплівіцы-жанчыны і каханай стаў нязменным, трывалым этычным імператывам у паэзіі Міколы Мішчанчука, ідэалам міласэрнасці, сапраўднай красы. Жывым і самым годным увасабленнем гэтых якасцей была для Міколы Іванавіча яго «палавінка» (так пяшчотна казаў ён сам) Соф'я Аляксандраўна, яго «руплівая пчолка», яго верная, трывалая апора, пры яе знешняй далікатнасці і, здавалася б, жаночай безабароннасці. Мікола Іванавіч быў усё жыццё аддана закаханы ў Соф'ю Аляксандраўну. Самаахвярны бацька і сем'янін, ён клапаціўся пра асірацелую сям'ю сына. У яго кабінеце былі фотаздымкі ўнукаў, дачкі Ірыны, сына Сяргея.

*У студэнцкай аўдыторыі ён працаваў заўсёды з натхненнем: не шкадаваў эмоцый, ніколі не быў «сухім акадэмістам», узрушаўся, расчульваўся, а часам і абураўся шчыра, да слёз.*

Цяпер, з адлегласці вечнасці і невяртання, выразна бачыцца: ён вучыў і словам, і ўчынкам, і жэстам, якія былі напоўнены чалавечнасцю. Мікола Іванавіч, здаецца мне, любіў быць удзячным людзям: яго гэта не бянтэжыла, і ён вельмі чула рэагаваў і адклікаўся на ўвагу і дабрыню да сваёй асобы. Ён быў удзячным вучнем. У размовах часта згадваў школьнае маленства, студэнцтва і свайго дарагога і любімага настаўніка Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, яго жонку Серафіму Андрэеўну, якія па-бацькоўску апекаваліся маладым таленавітым літаратарам Міколам Мішчанчуком. Ён умеў сплачваць доўг: у Міколы Іванавіча ёсць нізка абразкоў, прысвечаных светлай памяці Настаўніка. Менавіта так, з вялікай літары, ён пісаў гэтае слова, маючы на ўвазе Ф. М. Янкоўскага.

Душа Міколы Іванавіча засталася ў яго «запаветнай» паэзіі з апошняй прыжыццёвай кнігі «Струна надзеі», у якой ён падсумоўваў пражытае і перажытае. Думаючы пра гэтага незвычайнага чалавека, хочацца зноў і зноў дакранацца да «скарбаў» яго душы — яго вершаў, дзе зафіксавана біццё вялікага і надзвычай чулага сэрца. У яго творчай спадчыне будзе вечна жыць шчырасць і ўзнёсласць — то чалавека шчаслівага, то саматніка, але нязменна скіраванага думкамі і трывогамі да сям'і, нашчадкаў, шматлікіх вучняў. Ён шмат вандраваў — ад Далёкага Усходу, казахстанскага стэпу да Брэста, Польшчы — але свае талент, сілы, здароўе, прафесійнае майстэрства Мікола Іванавіч аддаў Беларусі.

Асноўным ідэйна-этычным імператывам жыцця вучонага і паэта Міколы Мішчанчука было сцвярджэнне гуманістычных каштоўнасцей. Гэта пераканаўча засведчана ў нізцы трыялетаў «Стаць глебай будучых зярнят» з кнігі «Струна надзеі», да якой хочацца звяртацца зноў і зноў як да запавету, тастаменту ўсім нам. Ужо самой назвай нізкі сцверджаны маральна-філасофскі маніфест Міколы Іванавіча — жыць дзеля будучыні, ствараць яе сваім жыццём, шляхам, які ў кожнага свой, спыняць гора і зло, тварыць дабро, помнячы, што жыццё кароткае. Гэты важны пасыл да нас утрымлівае сама прагматыка выказвання — «Стаць глебай будучых зярнят», дзе аўтар акцэнтуе імператыўна-загаднае «стаць» — быць заўсёды, прысутнічаць сваімі здзяйсненнямі ў будучыні. Пра гэта ён марыў, на гэта спадзяваўся. Не сумняваюся, што гэтыя і многія іншыя паэтычныя радкі Міколы Іванавіча і праз многа дзесяцігоддзяў будуць выразна высвечваць яго чалавечае аблічча — грамадзяніна, філосафа, творцу-рамантыка праметэеўскага тыпу, які імкнуўся і «на апошнім міліметры / Жыцця другім дапамагчы».

Усё жыццё паэт-прафесар правёў у цяжкой, нястомнай, сумленнай працы душы і інтэлекту. З вялікім штодзённым напружаннем, упарта ён змагаўся з абыякавасцю, духоўным невуцтвам, грамадска-абывацельскай няшчырасцю. У навуковай працы і творчасці ён множыў скарынаўскі запавет маральна-этычнага падзвіжніцтва і беларускага асветніцтва. У паэзіі і ў жыцці ён быў чалавекам высокім, годным.

Прадчуванне развітання, адыходу балюча-трывожным матывам прачытваецца ў многіх вершах апошняй кнігі:

*Вы чуеце стук майго сэрца?*
*Яно арытмічна даўно ужо*
*б'ецца,*
*І раптам калі, як струна,*
*абарвецца.*
*Не плачце, не трэба: ад Вас*
*я пайду не далёка*
*па чорным і страшным,*
*бясконцым і мёртвым*
*прасторы.*
*Да Вас прыплывуць*
*мае светлыя*
*цёплыя мары.*

Так Мікола Іванавіч падсумаваў сваё жыццё. Спавядальнаадкрыты, прынцыповы, паслядоўны абаронца і заступнік дабрыні, далікатны і шчыры, ён, несумненна, уваходзіць у вызначаную У. Караткевічам кагорту «дзівосна прыгожых людзей».

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна.**

# Мішэль Луё:
# «Жаданне пісаць — пачуццё глыбейшае, чым каханне»



Фота Наталлі Асмола

У яго кнігах вельмі многа не толькі аўтабіяграфічнага, але і сапраўдных гісторый з жыцця людзей, якіх ён сустракаў. А цікавыя сустрэчы з гэтым французам здараюцца ледзь не кожны дзень. Яго проза нібыта ўвабрала ў сябе асаблівасці жыцця ў краінах, дзе пісьменнік жыў і працаваў. Таму кажуць, што яго кнігі хочацца чытаць павольна, заўважаць дэталі, запамінаць усё, што прамаўляе голас аўтара. Ён з задавальненнем распавядае пра сябе, сваё пісьменніцкае крэда, расказвае цікавыя выпадкі, што здараліся падчас працы на розных кантынентах. Ён разважае ў стылі Далёкага Усходу, але лічыць сябе грамадзянінам краіны, якой у ранейшых межах ужо не існуе. Знаёмцеся: французскі празаік Мішэль Луё.

Спадар Мішэль не так даўно быў госцем Беларусі. Ён правёў некалькі сустрэч і з задавальненнем адказваў на пытанні публікі. На адну з імпрэз, якая прайшла ў сталічным «Кніжным салоне», завітала і карэспандэнт ЛіМа. Мадэратарам дыскусіі стала пісьменніца Людміла Рублеўская, а паразумецца з французскім госцем дапамагала перакладчыца Юлія Новік. Хоць у якасці асноўнага кірунку для абмеркавання была акрэсленая тэма суадносін асобы пісьменніка і патрабаванняў кніжнага рынку, гутарка крыху выйшла за яе межы.

## ГРАМАДЗЯНІН АЎСТРАЗІІ

— Я адразу ж палюбіў Беларусь, таму вельмі хачу распавесці пра сваю радзіму. Калі чалавек старэе, то ўсё больш звяртаецца да сваіх каранёў. Нарадзіўся я ў французскім рэгіёне Латарынгія. Краіна ў VI ст. называлася Аўстразія. Гэтае слова мне падабаецца, бо яно злучае такія часткі, як «Ост-» у значэнні «нешта ўсходняе» і «Азія». Там вытокі майго светабачання, якое пазней развіваецца ў розных краінах — ад Цэнтральнай, Усходняй Еўропы і да Дальняга Усходу. Я некалькі гадоў пражыў у Японіі, падарожнічаў у Карэю і Кітай. Таму Аўстразія для мяне выдуманая і рэальная адначасова.

Гістарычна яна знаходзілася на тэрыторыі, што цяпер уключае Бельгію, Люксембург і ўсходнюю частку Германіі. Гэта была вялікая краіна, якая часта змяняла назвы і паступова станавілася ўсё меншай, а цягам стагоддзяў выжывала паміж рознымі тэрыторыямі і абласцямі. Пасля смерці апошняга герцага Латарынгія была далучана да Францыі. Затым — рэвалюцыя, напалеонаўскія войны, і ўраджэнцы Латарынгіі змагаліся ў французскім войску. Вось чаму адзін з маіх продкаў ваяваў на Беразіне і нават атрымаў медаль ад Напалеона. Затым канцлер Германіі Ота фон Бісмарк у важны для Еўропы перыяд далучыў да Германіі Эльзас і частку Латарынгіі, менавіта тую, адкуль я родам. Пасля Першай сусветнай вайны гэтая тэрыторыя зноў была вернутая Францыі. Такім чынам атрымалася, што мой прадзед нарадзіўся французам, а памёр немцам, дзядуля, наадварот, нарадзіўся немцам, а памёр французам. Бацька лічыўся немцам, але быў французам па сваім светапоглядзе і нават удзельнічаў у супраціўленні. Такая зменлівая сітуацыя ляжыць у аснове маёй сямейнай і асабістай гісторыі.

## СВАІМ ШЛЯХАМ

— За той час, што пішу, я надрукаваў каля 15 кніг, кантактаваў з рознымі выдаўцамі. Былі пісьменніцкія поспехі і творчыя няўдачы. Аднак, на шчасце, кнігі не з'яўляюцца асноўным маім прыбыткам, бо ўсё жыццё я працаваў у дыпламатычнай сферы, выкладаў, і цяпер атрымліваю пенсію. На сваіх кнігах не толькі не зарабляю, але нават губляю. У Францыі склалася такая сістэма: калі пісьменнік вядомы, то яго кнігу публікуе буйное выдавецтва, прадумвае сістэму прамоцыі, аплачвае вандроўкі, атэлі, рэстараны… Калі аўтар не такі паспяховы, ён працуе цалкам за свой кошт.

Я ж проста вельмі цвёрда рухаюся па шляху, які абраў сам сабе, і пішу менавіта тыя кнігі, якія мне самому падабаюцца і якія хочацца пісаць. Мне падаецца, што жаданне пісаць — гэта нават больш глыбокае пачуццё, чым каханне. Калі не дасягну поспеху — тым горш, але я не хачу адаптавацца да нейкіх правілаў рынку і гуляць у адпаведнасці з імі. Усё ж варта верыць і ў тое, што мары і жаданні здзяйсняюцца. Распавяду вясёлую гісторыю. Доўгі час я марыў, каб выдавец быў мне і сябрам. Не паверыце, але пры публікацыі маёй апошняй кнігі гэта зусім нечакана здарылася!

Неяк быў я ў горадзе Мец, адміністрацыйным цэнры Латарынгіі, і малады чалавек у мяне запытаўся, на які аўтобус сесці. Ён сказаў, што я падаўся яму прыемным, і прапанаваў выпіць кавы. Мы пагутарылі, і я запытаўся, чым ён займаецца. Ён кажа: «Я выдавец». А ў мяне якраз быў з сабою рукапіс у партфелі, таму адразу ж прапанаваў пазнаёміцца з кнігай. Пачуў у адказ: «Нават не чытаючы, друкую!» Натуральна, гэта выглядае як казка, але мара здзейснілася. Усё магчыма, варта толькі верыць. Сёння я магу сцвярджаць, што мой выдавец — другі грамадзянін Аўстразіі.

## МЭТРЫ І ВЫПАДКОВЫЯ ГЕРОІ

— Мне падаецца, што імкнуцца да пісьменніцкага поспеху — рабіць выбар на карысць жыцця паводле чужых правілаў. У такіх умовах трэба і ўлічваць кан'юнктуру рынку, і арыентавацца на ўмоўнага чытача, і прыслухоўвацца да меркавання выдаўцоў. Мне ж хочацца жыць, проста звяртаючы ўвагу на свае адчуванні і жаданні. Можа быць, мае кнігі стануць папулярнымі гадоў праз трыста. Гэтага будзе дастаткова.

На працягу стагоддзяў у Францыі да пісьменнікаў ставіліся як да мэтраў думкі. Дзідро, Русо, Вальтэр, Гюго, Камю, Сартр, Арагон... А калі я быў студэнтам, то мы часта спрачаліся, бо ў кожнага быў свой улюбёны мэтр. Аднойчы, ужо падчас вучобы ва ўніверсітэце, я пазнаёміўся з вельмі прыгожай немкай з добрай сям'і. І неяк яна сказала, што вельмі любіць Сартра, а я — што вельмі люблю Камю. Усё, знаёмства было скончанае.

Можна сказаць, што скончылася і цэлая эпоха вялікіх мэтраў. Сёння ніводзін з пісьменнікаў, нават лаўрэат самай прэстыжнай прэміі, не стане такім гігантам думкі, як мэтры мінулых стагоддзяў.

## ЭФЕКТ «АЙСБЕРГА»

— У Германіі, Італіі, Іспаніі можна стаць запатрабаваным пісьменнікам, нават калі ты родам не са сталіцы. Аднак у Францыі ўсё не так. Што датычыць моды, яна заўсёды мела важнае значэнне для Парыжа. Гаворка не толькі пра адзенне, але і пра ідэі. Хоць мы вельмі ганарымся сваёй рэвалюцыяй, але з таго часу, як поспех атрымлівалі адно набліжаныя да караля творцы, якія маглі паказаць уплывовым асобам свае работы, амаль нічога не змянілася. Калі вы парыжанін і ў вас ёсць сяброўка ў вялікім выдавецтве, якая пакажа рукапіс раней за астатнія, вы маеце больш шанцаў на поспех. А пачатковец з усходу краіны мае ўсе шанцы застацца невядомым.

Магчыма, я перабольшваю, але ў гэтым ёсць доля праўды. Да прыкладу, калі публікуеце кнігу ў вялікага выдаўца, то яна будзе распаўсюджвацца па ўсіх бібліятэках і кнігарнях краіны, у прэсе з'явяцца артыкулы, і вы станеце вядомым чалавекам. Вас будуць запрашаць на тэлебачанне, пазнаваць на вуліцы, а на кніжных салонах усе будуць імкнуцца атрымаць менавіта ваш аўтограф. Дакладней, не ваш, а таго ўяўнага «чалавека з экрана».

Літаратуру можна параўнаць з айсбергам. Тая частка, што бачная, — аўтары, якія навідавоку, якіх усе ведаюць нават у твар. Сярод іх ёсць добрыя пісьменнікі, але ёсць і тыя, хто проста атрымаў масавы поспех. Крыўдна, што гэтыя не вельмі якасныя творы з ліку запатрабаваных перакладаюць на замежныя мовы, іх прадстаўляюць за мяжой, і толькі яны будуць вядомыя ва ўсім свеце. Але ёсць і схаваная пад вадой частка айсберга — кнігі, што друкуюцца ў малых выдавецтвах ці нават самвыдатам і фактычна не трапляюць на рынак. Іх аўтараў не паказваюць па тэлевізары. Нават калі такія пісьменнікі і ствараюць вельмі якасныя тэксты, то ўсё роўна яны на ўсё жыццё застаюцца «ў сутарэннях» і не могуць узняцца на ўзровень папулярных аўтараў.

## ІСНАВАННЕ НА ПАМЕЖЖЫ

— Я ўжо казаў, што не хачу гнацца за поспехам. Нават калі мае кнігі не будуць папулярнымі ў Парыжы, то застануся сабой. Адчуваю, што нібыта знаходжуся на памежжы. Гэты стан можна апісаць у дачыненні да розных аспектаў жыцця. Я паміж светлым і цёмным, паміж Францыяй і Германіяй, паміж Усходняй і Заходняй Еўропай, паміж Еўропай і Азіяй. Вось мой шлях. І знаходзяцца людзі, якія цікавяцца маімі кнігамі і гэтай праблематыкай. Хачу дадаць сур'ёзна і адначасова з гумарам, што, як усе людзі, я жыву паміж жыццём і смерцю, нават аднойчы ў Празе перажыў клінічную смерць. Ідэю памежжа перадаю тым, што мае вушы — каб чуць, а вочы — каб чытаць.

Я з таго пакалення, якое больш любіць кнігу на паперы, але ведаю, што ў ЗША электронныя выданні займаюць ужо 30 працэнтаў рынку, але ў Францыі пакуль толькі 5 працэнтаў. Неяк цягам шасці гадоў у мяне не было магчымасці публікаваць кнігі, але потым пашчасціла пазнаёміцца з невялікім новым выдавецтвам, заснаваным маладымі людзьмі, якія з павагай паставіліся да майго досведу і без ваганняў друкавалі мяне. Менавіта яны першымі ў Францыі пачалі публікаваць творы ў інтэрнэце. Дарэчы, там я выдаў каля васьмі кніг. Спачатку гэты праект не вельмі любілі кнігарні і разглядалі яго як канкурэнта. Цяпер каманда займаецца ў тым ліку кнігамі на паперы. Адметна, што ў той час як у іншых выдаўцоў прыбытак зніжаецца, у іх ён павялічваецца.

Сёння часта кажуць пра канец эпохі кнігі. У цэлым я песіміст, але ў гэтым пытанні хачу застацца аптымістам і веру ў тое, што заўсёды будуць знаходзіцца людзі, якія сапраўды любяць кнігу. У 1970-х гадах таксама пісалі пра канец літаратуры, аднак яе жыццё працягваецца. Але сёння пытанне ў тым, што літаратуру чытаюць тыя ж колы людзей, якія чыталі і раней. Лічыцца, што гэта выбраная частка насельніцтва кожнай краіны. Магчыма, так і трэба. Калі ў літаратуры, культуры няма магутнасці, улады, то ў гэтай слабасці хаваецца яе моц.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Нататкі выдаўца*

# Канверсаваць час

З літоўскім пісьменнікам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Яронімасам Лауцюсам мы гутарылі пра тое, наколькі спрэсаваны сёння час, як хутка адыходзяць у мінулае гадзіны, дні, гады, даволі часта напоўненыя падзеямі гістарычнага кшталту, як, дарэчы, і тая, у якой мы бралі ўдзел, — адкрыццё выстаўкі «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі». Афіша з шагалаўскімі «Закаханымі» будзе ўпрыгожваць Вільнюскую мастацкую галерэю аж да 9 лістапада. Арганізатарамі выстаўкі сталі ААТ «Белгазпрамбанк», Нацыянальны мастацкі музей Беларусі разам з Мастацкім музеем Літвы, Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. А выдавецтва «Чатыры чвэрці» прэзентавала сваю новую грунтоўную працу — мастацкі альбом-каталог гэтай выстаўкі.




Два дні, што беларуская дэлегацыя правяла ў літоўскай сталіцы, былі надзвычай насычанымі: прэс-канферэнцыя, адкрыццё выстаўкі, афіцыйныя сустрэчы, дзелавыя перамовы.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Мастацкім музеі Літвы, прысутнічалі журналісты з беларускіх і літоўскіх сродкаў масавай інфармацыі. Шмат пытанняў было накіравана старшыні праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Віктару Бабарыку, галоўнаму куратару выстаўкі Уладзіміру Шчаснаму, дырэктару Мастацкага музея Літвы Рамуалдасу Будрысу, дырэктару Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзіміру Пракапцову.

На адно з галоўных пытанняў журналістаў — чаму ўвагу прыцягнула менавіта Парыжская школа? — адказаў Віктар Бабарыка: «Прадстаўнікі гэтай школы выяўлялі сваё ўспрыманне навакольнага свету, адкрываючы для сузірання яго прыхаваныя і самыя незвычайныя рысы. Яны валодалі здольнасцю змяняць аблічча свету, аказваючы на яго ўплыў сваім мастацтвам. Усё гэта супадае з ідэалогіяй «Белгазпрамбанка» — фарміраваць навакольле такім, якім яно павінна быць. Бо знешні свет — унутры нас. Ён такі, якім мы яго жадаем бачыць і якім мы яго імкнёмся ствараць. І ад нас залежыць, які ён цяпер, а самае галоўнае, якім ён будзе для нашых дзяцей і ўнукаў».

Цікавымі для ўсіх было мерказанне галоўнага куратара выстаўкі Уладзіміра Шчаснага: «Вільнюс — першы горад за межамі Беларусі, дзе экспануецца выстаўка твораў мастакоў Парыжскай школы з калекцыі «Белгазпрамбанка». У гэтым — пэўная заканамернасць. На працягу стагоддзяў горад быў сталіцай агульнай для літоўцаў і беларусаў дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. У Віленскім універсітэце з 1793 г. працавалі кафедры архітэктуры, жывапісу, скульптуры і графікі, дзе ўдасканальвалі майстэрства многія мастакі з Беларусі, у прыватнасці, Валенцій Ваньковіч, Міхал Кулеша, Адам Шэмеш. Пасля яго закрыцця таленавітая моладзь з беларускіх зямель атрымала магчымасць навучацца ў створанай у 1866 г. Іванам Трутневым Віленскай малявальнай школе».

На другі дзень на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі гасцей вітаў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, а таксама прадстаўнікі арганізатараў. Барыс Уладзіміравіч падкрэсліў, што «літоўскім аматарам мастацтва сумесная выстаўка нагадае пра тое, якое значэнне мастакі — ураджэнцы Беларусі — маюць у гісторыі ўсяго еўрапейскага мастацтва».

Напрыканцы перад шматлікімі ўдзельнікамі імпрэзы выступіў саліст Вільнюскай оперы Рафаілас Карпіс, у выкананні якога прагучалі класічныя творы літоўскай кампазітараў.

Далей, ужо на прыёме Пасла Беларусі ў Літве спадара Аляксандра Караля з нагоды адкрыцця Дзён беларускай культуры, у межах якога праходзіць выстаўка, працягваліся разважанні пра ўзаемасувязі беларускай і літоўскай культур. Як высветлілася ў размовах прысутных, назвы твораў і імёны аўтараў, прадстаўленых на выстаўцы, былі знаёмы шырокай літоўскай публіцы больш па кнігах і рэпрадукцыях. Таму прыемным сюрпрызам стала сустрэча з творчасцю мастакоў-стваральнікаў феномена Парыжскай мастацкай школы.

Дарэчы, цікавая падрабязнасць: помнік самаму вядомаму выхаванцу Віленскай малявальнай школы Хаіму Суціну быў створаны і ўсталяваны на Манпарнасе выдатным літоўскім скульптарам Арбітам Блатасам.

Гісторыя вучыць усіх нас пільна сачыць за тым, што адбываецца ў сучасным свеце, адбіраць і, па магчымасці, занатоўваць лепшае, каб засталася спадчына, каб не вышукваць нашчадкам як даследчыкам нашай рэчаіснасці крупіцы падзей і фактаў. У гэтым сэнсе роля выдаўцоў звышадказная.

Тэмы, звязаныя з жыццём і творчасцю нашых знакамітых землякоў — майстроў Парыжскай школы (École de Paris), трэба адзначыць, апошнім часам трывала прапісаліся ў выдавецтве «Чатыры чвэрці». Але гэтым разам акцэнты ў працы былі ссунутыя ў бок літоўскай спадчыны. Таму альбом-каталог, падрыхтаваны для наведвальнікаў карціннай галерэі сталіцы Літвы, уключаў шмат новага і для беларусаў. Адбітак вялікай працы работнікаў «Белгазпрамбанка» і Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі па арганізацыі выстаўкі ў мастацкім увасабленні творчага калектыву выдавецтва «Чатыры чвэрці» зноў быў раз лічаны не толькі на гурманаў, калекцыянераў, але і спецыялістаў — мастацтвазнаўцаў і культуролагаў.

З'яўленню ў ім новай інфармацыі паспрыяла, у першую чаргу, тое, што многія мастакі з кагорты «Парыжскай школы» першапачатковую мастацкую адукацыю атрымалі ў Віленскай малявальнай школе пад кіраўніцтвам акадэміка Івана Трутнева. Пры падрыхтоўцы альбома нам пашчасціла пазнаёміцца з гэтым глыбей, адчуць, наколькі блізкія беларуская і літоўская культуры, як паўплывалі яны ў сваім гістарычным развіцці адна на адну.

Як трапна выказаўся нехта з вядомых людзей, «геніяльнасць — гэта ўсяго толькі нязвыклы погляд на рэчы». Ва ўсім свеце вядомы сёння «нязвыклы погляд» на рэчы былых навучэнцаў Віленскай школы — Пінхуса Крэменя, Леона Індэнбаума, Роберта Геніна, Міхаіла Кікоіна, Сэма Царфіна і Хаіма Суціна, якія ў Вільнюсе «здымалі пакой з самаварам», жылі галаднавата, але наведвалі выстаўкі, тэатры, вывучалі літаратуру. Дзеля заробку ім прыходзілася рабіць шмат чаго: пісаць партрэты з фотаздымкаў ці, як Хаім Суцін, служыць у багатых яўрэяў — адвакатаў і дактароў. Між іншым, Суцін быў адным з лепшых вучняў гэтай школы.

У прадмове да альбома пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус адзначыў, што выстаўка «ўвабрала столькі важных сэнсаў і кантэкстаў! Збор работ мастакоў Парыжскай школы — гэта погляд у пачатак мінулага стагоддзя, акно ва ўнікальны свет былога Вялікага Княства Літоўскага, які на карцінах прызнаных прадстаўнікоў гэтай школы стаў часткай еўрапейскай мастацкай традыцыі. Гэтая выстаўка для нас і пра нас — тых, хто ўсё яшчэ не да канца спазнаў сябе і адкрыўся свету».

А наш альбом-каталог, які па водгуках наведвальнікаў адразу стаў рарытэтным, уключае інфармацыю на чатырох мовах: літоўскай, беларускай, рускай і англійскай — пра тыя 69 жывапісных, графічных і скульптурных работ, што былі прадстаўлены са зборАў банка, Нацыянальнага мастацкага музея краіны і прыватных калекцый.

Хацелася б узгадаць літоўскіх калег з рэдакцыйнага аддзела Мастацкага музея Літвы, з якімі працавалі члены творчага калектыву нашага выдавецтва, удакладняючы шматлікія падрабязнасці для выдання. Мы вельмі ўдзячны Яніне Спяцялюнене, Гражыне Рутскіене, Міндаўгасу Шапока ды і іншым.

Пройдзе няшмат часу, і выстаўка ў Вільнюсе завершыцца. Але творы і малявядомыя біяграфіі знакамітых мастакоў — Марка Шагала, Хаіма Суціна, Яўгена Зака, Якава Балглея, Пінхуса Крэменя, Надзі Хадасевіч-Лежэ, Роберта Геніна, Шрайгі Царфіна (Зарфіна), Міхаіла Кікоіна, Восіпа Любіча, Восіпа Цадкіна, Рыгора Глюкмана, Леона Індэнбаума, Дзмітрыя Стэлецкага, — рэпрадукцыраваныя на старонках нашага выдання, застануцца назаўсёды. Як, спадзяёмся, назаўсёды ўвойдзе ў летапіс сусветнай кніжнай культуры ўнікальны сумесны беларуска-літоўскі праект — альбом-каталог «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі».

**Лілііяна АНЦУХ,**
**дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці»**

# Адметнае? Агульнае!

Выключная роля ў вырашэнні сучасных цывілізацыйных пытанняў, выклікаў часу належыць усведамленню і захаванню традыцыйных маральных каштоўнасцей, нацыянальнага культурнага кода.

Праблема вывучэння дыялектыкі рэгіянальнага, нацыянальнага і агульначалавечага ў літаратуры — адна з самых актуальных сёння, у часы глабалізацыі і мультыкультуралізму. Менавіта гэтым аспектам была прысвечана Міжнародная навуковая канферэнцыя «Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах» памяці народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Івана Навуменкі. Форум быў арганізаваны кафедрай беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны на базе Гомельскай спецыялізаванай славянскай бібліятэкі. Гэта чацвёртая канферэнцыя такога ўзроўню, арганізаваная кафедрай за апошнія гады.

Як і раней, на сёлетнюю канферэнцыю з'ехаліся вучоныя з Украіны, Польшчы, Расіі, Германіі, Чарнагорыі.

Асаблівы рэзананс выклікала выступленне Гун-Брыт Колер, прафесара, дырэктара Інстытута славяназнаўства Ольдэнбургскага ўніверсітэта (Германія), якая прадставіла даклад на добрай беларускай мове «Старыя факты, новыя пытанні? Актуальныя праблемы літаратурнай гісторыі на прыкладзе беларускай літаратуры». Для прысутных на пленарным пасяджэнні студэнтаў гэты даклад стаў моцным выхаваўчым аргументам, сведчаннем глыбокай цікавасці еўрапейскай навукі да беларускай культуры.

Работа канферэнцыі праходзіла ў чатырох секцыях: «Творчасць І. Я. Навуменкі: традыцыі і сучаснасць», «Славянскія літаратуры на сучасным этапе», «Гісторыя славянскіх літаратур», «Славянская літаратурная прастора як аб'ект трансдысцыплінарнага даследавання». Прапанаваныя да абмеркавання даклады прысвячаліся актуальным пытанням тэорыі і гісторыі літаратуры, кампаратывістыкі, рэцэпцыі мастацкіх твораў, перакладу, міждысцыплінарнаму дыскурсу, узаемасувязям літаратур.

З цікавасцю былі заслуханы выступленні Эфы Мэер і Крысціны Кром, аспірантаў Інстытута славістыкі Ольдэнбургскага ўніверсітэта.

Традыцыйна на канферэнцыі прысутнічалі дзеці Івана Навуменкі: Валерыя Навуменка, кандыдат медыцынскіх навук, сусветна вядомы вучоны-афтальмолаг, і яе брат Павел, якія падзяліліся сваімі ўспамінамі пра бацьку.

Падчас канферэнцыі адбылася прэзентацыя 3-га і 4-га тамоў Збору твораў І. Навуменкі. Невыпадкова імпрэзы з нагоды выхаду кожнага чарговага тома адбываюцца ў Гомелі: Іван Навуменка нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Васілевічы і заўсёды захоўваў цёплыя ўспаміны пра сваю малую радзіму. У Васілевічах адбываецца і дзеянне яго аўтабіяграфічнай трылогіі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# Смяшынкі з кошыка




Кастрычніцкі нумар «Вожыка» стане добрым дапаможнікам у барацьбе з восеньскай хандрой! Пра спецвыпуск, прысвечаны V абласному фестывалю гумару і гульні «Капыльскія пацехі», «ЛіМ» пісаў раней, але засталося яшчэ шмат цікавых малюнкаў і твораў, вартых чытацкай увагі.

У карыкатурах мастакоў Аляксандра Шмідта, Алега Папова, Аляксандра Каршакевіча і Алега Гуцола можна будзе знайсці не толькі спосабы барацьбы з «дажджлівым» настроем, але і добрыя парады па захоўванні цыбулі і зборы яблыкаў, прыклады няўдалага «яблычнага» менеджменту ды сведчанні студэнцкіх забаў у дагістарычныя часы.

«Збітымі ісцінамі» падзеліцца Міхаіл Уласенка, які, «падстаўляючы нагу, беражэ шыю», а Віктар Лоўгач у іранесцы «Дабрадзей» узгадае гісторыю чалавека з добрымі намерамі і нядобрымі ўчынкамі. Майстры вершаваных жанраў таксама не дадуць засумаваць. А на старонках «Калючынка» можна будзе «паламаць» язык скорагаворкамі Міхася Пазнякова («Спрытны, жвавы вожык-зух // Сябруку пашыў кажух»), пацешыць дарослы розум дзіцячай логікай (прамоўленае «Вуснамі дзяцей» запісалі Зоя Наваенка і Ірына Карачун), а сумны настрой — дасціпнымі анекдоцікамі (« — Дзеці, а вы ведаеце, навошта мы мыем рукі перад ядой? // — Ведаем, ведаем! Каб не пэцкаць лыжкі!»).

У скрыначы «Вясёлай пошты» знойдуцца прыпеўкі Міколы Кіселя пра агародныя справы, верш Ірыны Яўланавай пра смачную бульбачку і цудадзейны «напой для імунітэту», а таксама падслуханая Міколам Грабяньком гісторыя пра гарадское вяселле, заказдзіраваную тамаду ды грашовыя «таксы». З тых, хто нахіліўся «Пад вуглом 40°», будуць пацвельваццa Аляксандр Казялкоў і Вольга Лабажэвіч, а пра няўдалую татуіроўку Томы з гумарам раскажа Васіль Ткачоў.

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

# Жизнь на льду

Издательство «АСТ» при поддержке ООО «Харвест» представило читателям несколько книг о людях, которые оставили огромный след в спортивной индустрии. Они стали лучшими из лучших.

Екатерина Мишаненкова, автор-составитель книги «Харламов. Легенда хоккея», приглашает нас в мир одной из самых популярных командных игр. Главной личностью здесь всегда будет Валерий Харламов. Его называли хоккейным Пушкиным. Его обожали. Его имя знал каждый. А ведь сам Валерий Борисович даже не считал себя звездой! Он всегда говорил о людях, которые его окружали, но не о себе. Легендарный номер 17...

В книге собраны интервью родных Валерия, его друзей и товарищей, тренеров, спортивных обозревателей, соперников, всех тех, кто был частью жизни Харламова. Есть и высказывания легенды хоккея о спорте, о семье, о жизни.

Валерий был простым в общении человеком. Несмотря на популярность и победы, в душе он оставался тем обычным мальчиком, который когда-то пришёл на лёд для поправки здоровья. Он очень ценил дружбу... «Хоккейная тройка — это коллектив. Не случайно нас называют звеном. А первое условие успешной деятельности коллектива — психологическая совместимость. Ещё лучше, если дружба. Три мастера, даже очень хороших, не станут звеном, если не будут понимать друг друга, уважать друг друга, исповедовать одни и те же принципы хоккея», — так говорил Валерий Борисович о знаменитой тройке Михайлов — Петров — Харламов, которая буквально взорвала ледовые площадки всего мира.




«Харламов. Легенда хоккея» — книга о чрезвычайно сильном духом, талантливом, добродушном человеке. Дмитрий Рыжков, обозреватель газеты «Советский спорт», вспоминает: «Встречаются таланты, которые, будучи возведены на пьедестал, боятся спуститься с него хотя бы на мгновение. В результате вокруг таких людей возникает пустота. А вокруг Валерия всегда были люди. И многочисленные друзья. Ибо восьмикратный чемпион мира, дважды олимпийский чемпион, заслуженный мастер спорта Валерий Борисович был столь же прост в общении, как и известный в 1967 году лишь узкому кругу знатоков, подающий надежды Валера Харламов».

Ещё одна книга о жизни на льду — работа Николая Ярёменко «Фигурное катание. Наши. Полная история великих побед» повествует о, на первый взгляд, красивом, лёгком, зрелищном спорте — фигурном катании. В издании представлены терминология, описание программ откатa, интервью многих российских многократных чемпионов, заслуженных тренеров. Важное место занимает краткий обзор всех олимпиад, из которого можно узнать не только о чемпионах, но и об их судьбах.




Максим Маринин утверждает: «Как в спорте, так и в жизни всё нужно заслужить. А если ты на протяжении длительного времени успешно и стабильно выступаешь, то всё равно рано или поздно тебя начинают ставить на высокие места. Невозможно выйти на лёд — и сразу же «пришёл, увидел, победил». Для всего нужно время».

Книга раскрывает тайны судейства, подготовки к соревнованиям, стратегические моменты. Рассказывает о тяжёлых травмах, после которых иногда приходится заново учиться разговаривать, ходить, читать, о заслуженных победах и болезненных поражениях. Читателям показывается не только красочная сторона шоу, но и тяготы, преграды при подготовке номеров. Можно узнать не только о трудовых буднях фигуристов, но и открыть для себя неизвестные страницы жизни спортсменов.

**Наталья УСЕНКО**

# Истина где-то рядом

«Дети — вот истинные властелины лета. Дикий лес они знают хорошо, как царапины и синяки на собственных коленках: заведите их в любое место, и они с закрытыми глазами отыщут путь домой» — с долей беззаботности мы вторгаемся в чуждый мир ирландской действительности. Но мы слепы, нам нужен поводырь, чтобы не задеть углы мизинцем на ноге и не наделать очередных косяков. Ведь видим мы лишь на расстоянии вытянутой руки.

Совсем недавно вышел новый роман ирландской писательницы Таны Френч «Секретное место». Это её пятая по счёту книга. Молодой автор мгновенно заполнила огромную нишу современной детективной романистики, написав ряд книг о работе Дублинского отдела по расследованию убийств, в частности о двух персонажах: Робе Райане и Кэсси Мэддокс. Тана родилась в США, всю жизнь переезжала с семьёй с места на место, осев в конечном итоге в Ирландии, где живёт и работает в настоящее время. Мы же обратим внимание на первый роман писательницы «В лесной чаще», который вышел в переводе на русский язык при поддержке ООО «Харвест». Именно эта книга сделала Тану Френч знаменитым и уважаемым во всём литературном мире автором.

Из завязки романа мы узнаём, что главный герой Роберт Райан — детектив, в детстве ставший жертвой неизвестного маньяка. Его одежда была пропитана кровью, на теле остались глубокие рубцы. Конечно же, герой ничего не помнит, но желание узнать правду привело его в Дублинский отдел по расследованию убийств, где Роберт познакомился со своим напарником, Кэсси Мэддокс.

Роман «В лесной чаще» стал бестселлером и детективной классикой практически сразу после выхода в свет, а его автор помимо многочисленных наград заслужила право быть одной из лучших в своём жанре. Но не стоит верить каждому слову писателя, главная цель которого — помешать вам чувствовать себя комфортно. И когда, казалось бы, все ниточки связываются в морские узлы, мы снова оказываемся слепы перед реальностью. Вся эта спокойная Ирландия будит своего внутреннего зверя…

Однако американские корни Таны дают о себе знать. Её роман — американская реальность. Город, в котором происходят события книги, — вовсе не тихая бухта беспристрастия. Это место «кинговского» типа, приют для жаждущих загадок и мистики. Место, которое с первых страниц оставляет неизгладимый след в душе, желание быть наблюдателем, а не участником. Именно это заставит даже противника детективного жанра читать дальше, чтобы узнать истину, найти её за границами своей реальности в реальности чужой.

**Евгений СИНИЧЕНКО**

# Новая «Ребекка»?

Книга Гарриэт Лейн «Элис. Навсегда», изданная при участии ООО «Харвест», — типичная история о Золушке XXI века. Золушке, которая работает редактором в известном издательстве и совершенно случайно, даже не по собственному желанию, оказывается в центре событий, окутанных славой и деньгами, сквозь которые, конечно же, проходит тонкая нить любви.




Главная героиня романа — Фрэнсис Торп — тихий омут. «— В чём ваш секрет? Как вы ухитряетесь делаться незаменимой? — О… Наверное, лучший метод — сидеть и не высовываться, отвечаю я. — Залечь на дно. Правильно расставлять знаки препинания и надеяться на лучшее». В тихом омуте, как известно, черти водятся. Однако это не тот случай. Все события в жизни Фрэнсис — рояль в кустах, предоставленный Гарриэт Лэйн. Однако именно так и выглядят все истории о Золушках, кроме разве что самой первой.

Надпись на обложке — «Ребекка» XXI века!» — позиционирует произведение как якобы роман Дафны ДюМорье в новом амплуа.

Что же объединяет Элис и Ребекку? Разве что смерть и то, что их имена присутствуют в названии книги. А чтобы ощутить контраст этих двух произведений, достаточно отметить лишь тот факт, что волнительный, захватывающий сюжет и глубокие, отлично прорисованные персонажи в «Ребекке» связаны с человеком, который умер ещё до начала повествования. В «Элис. Навсегда» смерть героини не осталась за кадром, но при этом стала не чем иным, как просто смертью, повлекший за собой новую, более юную, «любовь» старого вдовца.

Главная героиня в «Ребекке» не имеет имени (повествование ведется от первого лица), но зато ей присуще яркость, сила, эмоции. «Элис. Навсегда», пожалуй, можно порекомендовать тем, кто обожает плавное течение событий в произведении, книги без ярко выраженной кульминации.

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Один день Анны Денисовны

Алексей Тарновицкий — израильский прозаик, драматург, публицист и переводчик русского происхождения. Более тридцати лет он прожил в советском Ленинграде, хотя никогда не публиковался на Родине. Из-под его пера вышло более 15 романов, несколько эссе и многочисленные повести. Неоднократный номинант «Русской премии».

В книге «Станцуем, красивая?» автор переносит читателя прямиком в разгар периода застоя в СССР: «Не в пример хуже, когда зловредная вонючая гадина огорошивает тебя дубиной по голове, ввинчивается в мозг посредине чудесного сна про лужок с ромашками». Алексей Владимирович — мастер описательной прозы. Его декабрьский Ленинград встречает вас «блеющими фонарями», а «мерзкая слякоть неопределённого цвета» чавкает внизу. Место, где с трудом можно заползти в нутро стальной туши «Икаруса». Такое встретишь только в декабрьском Питере. А вся жизнь здесь — поездка, многотонный железнодорожный состав, стартующий где-то на станции «Электросила», мигом проносящийся через «Техноложку» и замирающий в районе «Горьковской».

Анна Денисовна работает в «сугубо гражданском» конструкторском бюро. Она счастливый «обладатель» сына-школьника Павла и нерадивого мужа Славика, любовь к которому осталась где-то на предыдущей станции. Жизнь её вплотную соприкасается с ночными кошмарами, наполненными несоответствиями и неподобающей «набоковской» романтикой. Неловкий юмор, слишком банальный, чтобы претендовать на остроумность или новизну, сглаживает частые бытовые неурядицы. На чаше весов главной героини Аньки с одной стороны — реальность, нагруженная заботами и чувством вины, к примеру, за купленную роскошную дублёнку, с другой — безграничный мир прошлого, наполненный короткими остановками на мелькающих станциях, сожалением и хладнокровием.

Зато ленинградская весна — славное время. «Майскому солнцу ленинградцы радуются с такой отчаянной искренностью, что, тронутое этим вниманием, оно остаётся в городе на целый месяц, не покидая питерских небес даже по ночам». Каждый перегон по станциям сюжета книги приносит новые образы и новую атмосферу. Каждая глава — новая станция, до тех пор, пока вся история не упирается в тупик. Читая эту историю, хочется следовать за героиней, проехать этот путь вместе с ней.

Автор умело играет, словно ввинчивая в голову читателя собственные мысли, преобразуя окружающую действительность при помощи образов в нечто нематериальное, приправляя всё это горсткой личного опыта.

Роман целостный и плотный. Пробираясь через советский быт, хочется увидеть, куда приведут главную героиню её поиски настоящей любви. Тем не менее, вся её жизнь, от станции к станции, каждое новое утро, глядя в тарелку, угрюмо констатирует: Опять каша...

**Евгений СИНИЧЕНКО**

# «Зрабіць кнігу — не так проста»

**Вельмі часта пра дзіцячае кнігавыданне мы гутарым з пісьменнікамі. Радзей — з мастакамі. Размаўляем і з кіраўнікамі розных выдавецтваў. А вось з рэдактарамі, тымі, хто найперш спрыяе нараджэнню кнігі, — шмат радзей. Наш карэспандэнт задаў некалькі пытанняў дасведчанаму і аўтарытэтнаму ў гэтай справе супрацоўніку Выдавецкага дома «Звязда» Вользе Аляксеевай. Тэма размовы — кнігі, адрасаваныя дзецям.**


Фота Наталлі Асмола

**— Вольга, аддзел кніжнай групы Выдавецкага дома «Звязда», якім вы кіруеце, шмат займаецца дзіцячай кнігай. Хацелася б ведаць вашу ацэнку дзіцячага кнігавыдання ў нашай краіне. Як вам уяўляецца гэты кірунак? Ці задавальняе ён попыт чытача?**

— Дзіцячых кніг выдаецца шмат, яны даволі разнастайныя па ўсіх параметрах. Кожны можа знайсці для сябе нешта цікавае. Аўтары стараюцца пісаць пасучаснаму, што вельмі важна. Нешта незвычайнае ў афармленне ўводзяць, арыентуючыся на замежныя кнігі, мастакі. Разам з тым выдаюцца класічныя кнігі, такія, якія былі ў нашым дзяцінстве, у дзяцінстве нашых татаў і матуль. Хтосьці скажа, што гэта ўжо не модна, а хтосьці, не раздумваючы, купіць якраз такую кнігу.

**— Працуючы над дзіцячай кнігай, вы перш-наперш думаеце пра юнага чытача ці пра яго бацькоў, якія прымаюць рашэнне, якую кнігу набыць?**

— І пра дзяцей, і пра бацькоў. Спачатку, канечне, кніга трапіцца на вочы дарослым. Таму важна, каб выданне «зачапіла». Іншая справа — які цікавіць змест. Хтосьці хоча чытаць свайму дзіцяці казкі па-беларуску, хтосьці выбірае кнігу на рускай мове. Нам трэба з увагай ставіцца і да тых, і да другіх.

Але, вядома ж, пры стварэнні кнігі трэба думаць і пра маленькага чытача. Зрабіць кнігу — гэта не так проста, як можа падацца на першы погляд. Існуюць нормы, якіх кнігавыдаўцы павінны прытрымлівацца. Гэта датычыць шрыфту, памеру літар, колькасці ілюстрацый. Часам мы бываем абмежаваныя ў сваіх памкненнях. Але ў любым выпадку сваю працу робім з пачуццём адказнасці.

**— Ці часта здараецца, што ў Выдавецкі дом прыходзяць аўтары з новымі, яркімі творамі? Або вам трэба адшукваць таленавітых паэтаў, празаікаў?**

— Раз на раз не прыходзіцца. Канечне, мы стараемся друкаваць тых, каго ўжо сёння можна назваць класікамі ў дзіцячай літаратуры. Гэта Анатоль Зэкаў, Раіса Баравікова, Алесь Бадак, Віктар Гардзей, Уладзімір Мазго, Алена Масла, Мікола Чарняўскі, Міхась Пазнякоў (прашу прабачэння, што не называю ўсіх). У іх кепскіх твораў проста не бывае. Таму часам звяртаемся да гэтых аўтараў з прапановай зрабіць які-небудзь цікавы праект. І яны з задавальненнем пагаджаюцца. Але, безумоўна, звяртаюцца да нас і тыя, хто яшчэ ніколі не меў уласнай кнігі. Сярод іх ёсць і таленавітыя людзі. Праўда, больш канкрэтная размова атрымліваецца з тымі, хто ўжо друкаваўся ў дзіцячых часопісах. Калі ж чалавек прыносіць рукапіс адразу ў аддзел кнігавыдання, гэта выклікае некаторае падазрэнне.

**— А калі гаварыць пра жанры, то што часцей гаспадарыць у дзіцячай літаратуры — апавяданні, вершы, казкі?**

— Цяжка сказаць, сярод твораў беларускамоўных пісьменнікаў — розныя. Гэта казкі, вершы, загадкі, розныя смяшынкі, блытанкі, скорагаворкі. Кнігі на рускай мове — гэта часцей за ўсё вершы. Вось літаральна ў апошні час мы выдалі кнігі Наталлі Ігнаценка, Яніны Жабко, Віктара Кудлачова і інш. На другім месцы, відаць, казкі і казачныя аповесці. А вось што да апавяданняў, то іх нестае як сярод рускамоўных твораў, так і сярод беларускамоўных.

**— Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў некалькі найменняў кніг, якія носяць выразна зададзены выхаваўчы, адукацыйны напрамак. Яны вучаць бяспецы паводзін, напрыклад... Раскажыце, калі ласка, пра гэтыя кнігі больш падрабязна. Наколькі яны, на ваш погляд, запатрабаваны?**

— Так, сапраўды, сёлета мы запусцілі дзве новыя кніжныя серыі — «Вясёлы калейдаскоп» і «Пра бяспеку дзецям». Апошняя, дарэчы, стваралася мэтанакіравана. І хутчэй — для бацькоў. Гэта серыя кніг, дзе ў форме казкі распавядаецца, як арыентавацца ў лесе, раскрываюцца правілы паводзін на вадаёме, на дарозе, а таксама правілы пажарнай бяспекі. Стварыў гэтыя кніжкі пісьменнік Генадзь Аўласенка, ілюстрацыі выканала мастачка Аксана Аракчэева. Серыю мы спецыяльна запланавалі на рускай мове, каб кнігі былі больш даступнымі кожнаму, улічваючы, што большасць дзяцей чытае па-руску. Ну і трэба сказаць, што гэты праект падтрымалі супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Дзяржаўтаінспекцыя. Папярэдне яны знаёміліся з рукапісамі кніг, і толькі ўлічыўшы ўсе заўвагі, мы запускалі кнігу ў вытворчасць. Думаю, бацькам варта было б набыць такую серыю для свайго дзіцяці, таму што чытаць гэтыя кніжкі — не толькі цікава, але яшчэ і вельмі карысна.

**— Каго з аўтараў вы б назвалі адкрыццём Выдавецкага дома «Звязда»?**

— Смела назаву імя маладога казачніка Дзмітрыя Саўчыка. Пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая, здаецца, да знаёмства з намі ўжо мела адну кнігу, а яшчэ тры выдадзены ў нас — супрацоўніцтва на гэтым не спыняецца. Летась мы працавалі з тэлевядучай Вікторыяй Сянкевіч — выдалі яе кніжку пад назвай «Цікаўная вустрыца».

**— Наколькі вялікую ролю ў дзіцячай кнізе адыгрывае ілюстрацыя?**

— Часам мастак можа зрабіць нават большую працу, чым пісьменнік. Мы нават кажам, што імя мастака можна выносіць на вокладку. Жарты жартамі, але думаю, што ў хуткім часе ўвядзём гэта ў практыку. У любым выпадку, нельга сказаць, што кніга — гэта творчы набытак толькі пісьменніка, гэта яшчэ і прадмет гонару для мастака. Таму калі мы атрымліваем з друкарні новую кнігу і я тэлефаную аўтару і мастаку, каб парадаваць іх навінай, мастаку кажу таксама: «Выйшла ваша кніга».

**— Ведаю, што Выдавецкі дом «Звязда» шмат працуе з маладымі мастакамі. У гэтым выяўляецца пэўная мэта? Вы арыентуецеся на творчую моладзь?**

— Чаму б не? Ім таксама трэба дапамагчы, раскрыць сябе. Можа, хтосьці з маладых стане ў будучым вядомым кніжным графікам. А мы будзем ганарыцца тым, што ён пачынаў у нас. Пастаянна супрацоўнічаем з мастачкамі Марыяй Лось, Данай Руновай. Яны заўважна выраслі ў прафесійным плане, калі, напрыклад, параўноўваць іх першыя кнігі з тымі, што выдаюцца сёння. Ангеліна Вашчанка, Кірыл Задворны, Уладзіслаў Яраслаўцаў — вось імёны тых, хто літаральна нядаўна далучыўся да кніжнай справы. Іх работы нам спадабаліся, кожны мае ў сваім творчым набытку ўжо як мінімум па адной кнізе і кожны працуе над наступнай.

**— І ўсё ж чаго не хапае дзіцячай кнізе?**

— Магчымасцей паліграфіі. З зайздрасцю гляджу на нямецкія, літоўскія, украінскія выданні. Аўтараў у нас хапае. І твораў добрых таксама. І мастакі ідуць у нагу з часам. Не хочацца стаяць на месцы, хочацца рабіць нешта новае, цікавае.

**— Дарэчы, каго з класікаў, хто актыўна працаваў для дзяцей, вы гатовы сёння ахвотна перавыдаваць?**

— З класікаў — любога. І хоць заўтра. Я сама выхоўвалася на класічных вершах, таму з задавальненнем выдала б казкі Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, апавяданні Змітрака Бядулі, вершы Цёткі. І, канечне ж, класікаў канца XX стагоддзя — Уладзіміра Караткевіча, Янку Маўра, Паўла Місько, Васіля Вітку, Максіма Танка, Уладзіміра Мацвеенку і многіх іншых.

**Гутарыў Максім ЖАЛЕЗІНКА**

# Вершы крочаць па планеце

Падаюць зоркі ці не? Дзе начуе сонца? Якія суніцы самыя салодкія? Зборнік вершаў «Гэтая кніга дзецям пра ўсё на свеце» Тамары Красновай-Гусачэнка, які выйшаў у Выдавецкім доме «Звязда», — грунтоўны даведнік па неабсяжным свеце, які тоіць адказы на многія пытанні маленькіх.

Паэтэса, празаік і публіцыст стварыла серыю лірычных твораў для дзяцей, напоўненых гуманізмам, аптымізмам і любоўю да жыцця. Аўтар выдатна разбіраецца ў псіхалогіі маленькіх першаадкрывальнікаў, выхоўвае ў іх уменне бачыць прыгажосць прыроды, не замыкацца ў сабе, шанаваць сяброўства і дапамагаць людзям, асабліва блізкім.

«Гэтая кніга дзецям пра ўсё на свеце» нагадвае лірычную энцыклапедыю, падзеленую на пяць вялікіх частак. У першай, пра поры года, можна знайсці не толькі рыфмаванае апісанне месяцаў, але і невялікія празаічныя даведкі пра кожнае свята ў гэтыя дні — хрысціянскае альбо народнае. У іх ліку — Каляды, Новы год, Еўдакія, калі гукалі вясну, святкавалі Саракі, Вялікдзень, Благавешчанне.

Вершы так красамоўна апісваюць прыроду, што, здаецца, адчуваеш пахі, бачыш колеры, ідзеш па мокрай, у дажджавых слязінках, траве альбо сухой ад пацалункаў сонца зямлі. Уяўленне «падагравають» ілюстрацыі мастачкі Марысі Лось — рэалістычныя, але ў той жа час крыху чароўныя.

Наблізенне вясны ў паэтэсы звязана са светлай надзеяй. Крыштальна чыстае і салодкае паветра, квітнеючая вярба, далікатныя пралескі — хіба можна тут хандрыць? Не забывае аўтар і пра маму, самую любімую, цярплівую і мудрую, прысвячаючы ёй не адзін верш.

Лета ўрываецца ў свядомасць чытачоў яркімі фарбамі, лунае над палямі і лясамі, пырскае ягадным сокам, усыпляе мядовым пахам. Восень у кнізе прыходзіць разам з цэлым парадам «грыбных» вершаў — пра апенькі «ў белых спаднічках, на ножках тоненькіх», баравікі ў «аксамітных капялюшыках», жоўтыя сястрычкі-лісічкі. Завяршаецца раздзел лірычным цыклам пра зіму, «нявесту у белым», якая апранула дрэвы ў кажушкі і ператварыла рэчкі ў ледзяныя люстэркі. Паэтэса не забывае нагадаць дзецям, што ў гэтую пару трэба цёпла апранацца, каб не захварэць!

Другая частка кнігі — «Свет спазнаючы, мы вучымся жыць» — напоўнена невымернай любоўю да маленькіх. Вось дзеці гуляюць у хованкі, вучацца кулінарыць — пячы яблычныя пірагі ці выціскаць сок з садавіны, робяць зарадку з раніцы. У хлопчыкаў і дзяўчынак Тамары Красновай-Гусачэнка няма дрэнных звычак і шкодных характараў. Усе яны — клапатлівыя, працавітыя, акуратныя — тыя, з каго варта браць прыклад. У павучальнай, але ненадакучлівай манеры аўтар вучыць дзяцей дапамагаць дарослым, слухацца іх, не крыўдзіць, есці не толькі цукеркі, але і суп, таму што ён больш карысны, чытаць кніжкі, каб быць разумнымі.




У трэцяй частцы зборніка «Усё ў прыродзе ўлічана» гаворыцца пра родны край, дарагі сэрцу, мілымі і блізкімі беларускімі пейзажамі. «В каждой маленькой травинке / Тайна вечности / Живёт...» — захапляецца паэтэса і нагадвае, што трэба заўважаць прыгожае вакол, не зацыклівацца на камп'ютарнай псеўдарэальнасці.

Чацвёрты раздзел кнігі «Рабятам пра зверанят», як і вынікае з назвы, — пра жывёл. Старонкі засяляюць бабры, якія будуюць дом з асіны і рабіны, сінічкі, што клапатліва запасаюць на зіму мошак і жукоў, верныя сабакі — Дружок і Барбос. Інтэрв'ю з сапраўдным (між іншым, добрым) Кракадзілам, дзеля асаблівага інтарэсу, прыкладаецца. Усе героі вельмі паказальныя, таму што цэняць сяброўства і берагуць адзін аднаго!

Пяты і апошні раздзел «Свет. Зоркі. Сусвет» пагібляе думкі ў атмасферу не халоднага космасу, а цеплыні роднай хаты, якая павінна быць цэнтрам усяго свету для дзіцяці. Пра гэта таксама варта задумацца мамам і татам. Нездарма кніга рэкамендуецца для чытання дарослымі сваім дзецям. Аўтар як бы няўзнак выхоўвае абодва пакаленні, сціраючы межы і зближаючы маленькіх дачок, сыноў і бацькоў.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Падарожжа з Парыжа ў Нясвіж

**Творчы праект беларускай мастачкі Ірыны Котавай, прадстаўлены ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж», выклікаў шмат уражанняў і разваг.**



Спальня княгіні ў Нясвіжскім палацы, 2014. Пастэль.



Калекцыйны кабінет Нясвіжскага палаца. Інтэр'ер з сакрэтнікам, 2014. Пастэль.

Ініцыятыву правядзення арт-праекта падтрымалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі.

Непарыўная сувязь са старажытным горадам, культурным і гістарычным цэнтрам Беларусі ўзнікла ў І. Котавай яшчэ з дзіцячых гадоў. Падчас летніх канікул захаплялася хараством архітэктуры і прыроды. Падчас вучобы на кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў маладая творца прыязджала ў музей-запаведнік на летнюю пленэрную практыку. У далейшым велічны вобраз легендарнага замка дапамагаў ёй ствараць ідэі, звязаныя з мастацкім пранікненнем у розныя гістарычныя эпохі і свет тонкіх паэтычных пачуццяў.

Пасля заканчэння БДАМ, у 2002 годзе, Ірына Котава працягнула навучанне ў Парыжы, дзе стварыла непаўторныя пейзажныя серыі «Уяўны Парыж», «Над стрэхамі Парыжа», «Манмартр», «У Люксембургскім садзе». Гэтыя мастацкія дасягненні раскрываюць маладую творцу як прадаўжальніцу традыцый майстроў «Парыжскай школы» 1910 — 1980-х гг., многія з якіх былі выхадцамі з Беларусі.

У 2013-м падчас сустрэчы ў Пасольстве Беларусі ў Францыі І. Котава атрымала афіцыйнае запрашэнне правесці ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж» арт-праект, які б умацоўваў і развіваў беларуска-французскія творчыя сувязі. Пачалася актыўная канцэптуальная падрыхтоўка. На працягу некалькіх месяцаў Ірына вывучала архітэктурныя асаблівасці палаца: у непаўторным аўтарскім стылі адлюстраваны старадаўнія інтэр'еры, перададзены вобразны стан культурнага асяроддзя. Усё гэта дазваляе адчуць жывую сувязь з мінулым, усвядоміць значнасць традыцый вялікіх эпох мастацтва, якія аб'ядноўваюць Беларусь з іншымі еўрапейскімі краінамі.

Больш як шэсцьдзясят твораў мастачкі, прадстаўленых у экспазіцыі, выкананы ў тэхніцы пастэлі. Яны раскрываюць назву выстаўкі: глядач атрымае магчымасць здзейсніць мастацкае падарожжа са сталіцы Францыі ў культурную сталіцу Беларусі — старадаўні Нясвіж.

На адкрыцці арт-праекта ўвазе гледачоў быў прапанаваны музычна-літаратурна-мастацкі перформанс, у якім бралі ўдзел Ірына Котава, французскі пісьменнік і публіцыст Крыстоф Левалуа, музыканты Галіна Мацюкова (флейта-траверса, Мінск) і Дзмітрый Зубаў (клавесін, Санкт-Пецярбург). Такі інтэрактыўны спектакль упершыню быў прадстаўлены ў Парыжы ў студзені 2014 года і атрымаў пазітыўныя водгукі прэсы і патрабавальнай парыжскай публікі.

**Яўген ШУНЕЙКА**

**Даведка «ЛіМа»**

Ірына Котава нарадзілася ў Мінску. У 2002 г. скончыла аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У 2007 г. атрымала дыплом ліцэнзіята Свята-Сергіеўскага праваслаўнага багаслоўскага інстытута ў Парыжы. У 2009 г. абараніла магістарскую дысертацыю ў галіне гісторыі мастацтваў Практычнай школы вышэйшых даследаванняў універсітэта Сарбона (Парыж). Член Парыжскага саюза мастакоў. Яе работы экспанаваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, галерэях Францыі, Італіі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Канады і ЗША. Дакументальны фільм «Уяўны Парыж» (Белтэлерадыёкампанія, 2010 г., рэж. С. Кацьер), які распавядае пра беларускую мастачку, стаў лаўрэатам XXI Міжнароднага кінафоруму «Залаты Віцязь».

# Рок-сцэна па-беларуску

**Сталічны альтэрнатыўны рок-гурт *RetroElektro* (RE) з'явіўся два гады таму. Крыху пазней распачаўся новы праект, заснаваны адным з удзельнікаў *RetroElektro* — *Tim Erna* (TE). На пачатку верасня прайшоў канцэрт з удзелам гэтых калектываў. Вось што распавёў удзельнік RE і заснавальнік праекта TE — Цім.**



*Tim Erna.*

— Перадгісторыя такая: пасля выхаду альбома RE «Буянства фарбаў» мы ўзялі двухгадовую паўзу, на працягу якой удзельнічалі ў розных праектах. Аднойчы, падчас чарговай нефарматнай рэпетыцыі, музыканты стварылі максі-сінгл «Байканур». Ён даволі складаны па ідэі, таму і доўга нараджаўся. Пасля з'явілася песня «Паслухайце!». У выніку стала зразумела, што кампазіцыі, з аднаго боку, цалкам адпавядаюць стылістыцы і ідэі *RetroElektro*, а з другога — зусім не падобныя на «Буянства фарбаў». Іншы свет! Так і з'явіўся *Tim Erna*. Як ён будзе сумяшчацца з *RetroElektro*, пакажа час.

**— То бок гэта ўжо новая гісторыя?**

— Так. З лялькамі мы скончылі — выказалі ўсё, што хацелі. Музычна і стылістычна гурт *Tim Erna* ўжо цалкам самастойны — напрыканцы восені мы выпусцім альбом. У нас багата ідэй і варыянтаў здымак новага кліпа, таму праект развівацца будзе, толькі крыху павольней за гурт *RetroElektro*.

**— У вашым рэпертуары ёсць песні на рускай, беларускай, англійскай мовах...**

— Лічу, што чалавек павінен пісаць лірыку (калі мы гаворым не проста пра словы для песні) на той мове, на якой разважае. Прызнаюся, я не настолькі выдатна валодаю англійскай і беларускай мовамі, каб свабодна выказвацца. Тым не менш некаторым кампазіцыям беларускія вершы больш пасавалі па стане, атмасферы і агульным настроі.

**— У адным з інтэрв'ю вы адзначылі, што на творчасць натхняюць людзі. Гэта перавагаа блізкія ці, можа, любы чалавек, які чым-небудзь зачапіў? Як вы ставіцеся да працы па парыве душы?**

— Гэта адзіна магчымы варыянт атрымання задавальнення ад працы альбо звычка, якую ты выпрацоўваеш за некалькі месяцаў. Што да социуму як сродку натхнення... Людзі і муза — не адно і тое ж. Ёсць музы, якія натхняюць, а ёсць людзі, якія наводзяць на думкі сваімі разумнымі ці недарэчнымі ўчынкамі, даюць глебу для разважанняў.

**Вольга СТАРАВОЙТАВА**

# Вяртанне народнага

Прэм'ера новай карціны Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» «Белыя Росы. Вяртанне» адбылася ў сталічным кінатэатры «Кастрычнік». Кінастужка стала працягам вядомай кінакамедыі «Белыя Росы», якая ў СССР была прызнана лепшай камедыяй 1984 года.

Перад пачаткам паказу міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў звярнуўся да прысутных: "Гэта карціна працягвае тэму сістэмы каштоўнасцей, што была закладзена «Белымі Росамі» Ігара Дабралюбава. Фільм дазваляе гледачу параўнаць, наколькі мы змяніліся, ці не страцілі тое, што дае нам права называцца людзьмі».

Вядомы беларускі драматург, аўтар «Белых Рос» і «Белых Рос. Вяртанне» Аляксей Дудараў папярэдзіў гледачоў: яны ўбачаць не працяг дабралюбаўскага фільма, а новую самастойную працу, таксама прасякнутую пачуццямі, якія вызначаюць чалавечае шчасце: вера, надзея, любоў.

Галоўны рэжысёр новай карціны Аляксандра Бутар (дарэчы, равесніца «Белых Рос») прызналася, што сабраць поўны кінатэатр «Кастрычнік» была яе мара. Малады рэжысёр прадставіла сваю каманду, цёпла гаворачы пра кожнага ўдзельніка. Не змаглі прыехаць у Мінск Юозас Будрайціс і Андрэй Мярзлікін.

Адным з самых пачэсных гасцей кінапрэм'еры стаў народны артыст РСФСР Мікалай Карачанцаў. Любімы многімі пакаленнямі акцёр прыехаў разам з жонкай. Фільм спадабаўся!

Сцэнарый да працягу любімай многімі пакаленнямі кінастужкі напісалі Аляксей Дудараў, Аляксандра Бутар і Юлія Гірэль. Галоўныя ролі ў карціне выконваюць народны артыст Літвы Юозас Будрайціс, народны артыст Беларусі Віктар Манаеў, народная артыстка Расіі Ірына Каўрыга-Ягорава, якая здымалася і ў першым фільме. З ранейшага акцёрскага складу ў кінастужцы «Белыя Росы. Вяртанне» пасля доўгага творчага перапынку сыграў народны артыст РСФСР Мікалай Карачанцаў.

Фільм выйшаў у шырокі пракат 16 кастрычніка. 22 кастрычніка прэм'ера карціны адбылася ў Вільнюсе, а на 22 снежня запланавана ў Маскве.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Падмурак дзяржаўнасці

**Шэраг тэматычных экспазіцый прадстаўлены ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — выстаўка «Вялікія бітвы беларусаў: ад паходаў на Візантыю да Першай сусветнай вайны», падрыхтаваная з фондаў аддзела стардрукаў і рэдкіх выданняў кніжніцы.**




*Фота Кастуся Дробава*

*«Дзяржава, ці апісанне Каралеўства Польскага, Літоўскага, Прускага і Лівонскага», 1642 г.*

Экспазіцыя прадстаўляе матэрыялы, якія сведчаць пра ўдзел палачан у пераможных паходах князя Алега на Царград (Канстанцінопаль; 907, 911 і 944 гг.), у выніку якіх Полацк атрымліваў візантыйскую даніну. Дарэчы, выстаўка прымеркаваная да 500-годдзя бітвы пад Оршай (1514) з удзелам войск Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай. Перамогу ў гэтай бітве можна лічыць агульнай для Польшчы, Літвы, Беларусі ды Украіны.

На думку бібліёграфа Прэзідэнцкай бібліятэкі Глеба Сафроненкі, выстаўка здольная зацікавіць не толькі навукоўцаў, але і студэнтаў, якія змогуць тут карысна правесці час. Валерый Герасімаў, загадчык аддзела стардрукаў і рэдкіх выданняў, падкрэслівае: мэта — не толькі паказаць вайсковыя поспехі Беларусі ў рэтраспектыве, але і раскрыць 1000-гадовую гісторыю беларускай дзяржаўнасці. Бібліятэка і сёння купляе старажытныя выданні, такія, як «Хроніка зямлі Рускай» італьянца Аляксандра (Алесандра) Гваньіні (1538 — 1614), выдадзеная ў 1611 г. у Кракаве, а таксама набыты нядаўна рукапіс 1568 г., які змяшчае данясенне кардынала Руджэры ў Ватыкан Папу Рымскаму Пію V і апісвае геапалітычную сітуацыю напярэдадні заключэння Люблінскай уніі 1569 г. Дакумент, несумненна, будзе цікавы айчынным гісторыкам і правазнаўцам.

Самае даўняе з прадстаўленых на выстаўцы выданняў — «Дзяржава, ці апісанне Каралеўства Польскага, Літоўскага, Прускага і Лівонскага», выдадзенае на лацінскай мове знакамітай друкарняй Эльзевіраў у Лейдэне ў 1642 г. Гэты дакумент — адно з першых геаграфічных, геапалітычных, эканамічных, гаспадарчых апісанняў нашых зямель.




*Ліст Жыгімонта III Вазы, вялікага князя ВКЛ і караля польскага.*

Уключае экспазіцыя і партрэты Альгерда, Давыда Гарадзенскага, Вітаўта, Канстанціна Астрожскага ды іншых слынных палкаводцаў, якія паўплывалі на ход айчыннай гісторыі.

**Яна ЯВІЧ**



*Таццяна Міхей «Зіма ў Полацку». Папера, акварэль.*



*Іна Сытая «Пірацкая бухта». Папера, акварэль.*

# Колеры і лірыка

**Выстаўка работ навучэнцаў мастацкай студыі Вячаслава Паўлаўца «Кастрычніцкая эвалюцыя» адкрылася ў сталічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі.**

Свае творы ўвазе публікі прадставілі пяць маладых мастачак: Таццяна Міхей, Іна Сытая, Аксана Сытая, Вольга Святлічная, Ала Кузняцова — прадстаўнікі розных, нават не творчых, прафесій. А лірычны настрой імпрэзе надаў струнны квартэт «Класіка».

Мастачкі прызнаюцца: студыйныя заняткі, заўсёды прысвечаныя пэўнай тэме ці тэхніцы, радуюць іх, таму што спадар Вячаслаў умее скіроўваць творчую энергію ў рацыянальнае рэчышча. Натхняюць мастачак фотаздымкі з вандровак, палотны выбітных майстроў жывапісу. Прыкладам, работа Таццяны Міхей «Зіма ў Полацку» была створана пасля яе паездкі ў гэты горад.

Маці Вячаслава Паўлаўца, Дзіяна Аляксандраўна, распавяла: сын пачаў усвядомлена маляваць яшчэ дашкольнікам і ўжо тады атрымліваў задавальненне ад творчасці. Паводле меркавання В. Паўлаўца, мастак — гэта не прафесія, а стан душы. Экспазіцыю ён назваў вынікам жывога, непасрэднага судакранання яе аўтараў з мастацтвам.

**Яна ЯВІЧ**

# Гарадзенскія чытанні

**Прымеркаваныя да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава IX Гарадзенскія навуковыя чытанні адбыліся ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага.**

У Гродне Васіль Уладзіміравіч пражыў амаль чвэрць стагоддзя, тут напісаў першыя творы. Унікальная гісторыя і культура горада не маглі не паўплываць на фарміраванне асобы Майстра.

Даклады, прысвечаныя гродзенскаму перыяду творчасці В. Быкава, прадставілі падчас чытанняў літаратуразнаўцы Аляксей Пяткевіч, Ігар Жук, Ала Петрушкевіч, Святлана Тарасава, Алена Руцкая ды іншыя. Бралі слова дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Лідзія Мальцава, другі сакратар Пасольства Беларусі ў Польшчы Юлія Рубіна, пісьменніца Ірына Шатыронак, госці з г. Беластока — паэтэса Міра Лукша, паэт і перакладчык Віктар Швед. Гасцям чытанняў была прадэманстравана відэастужка з архіваў абласной тэлестудыі, прысвечаная імпрэзам з удзелам пісьменніка.

**Любоў ТУРМАСАВА,**
**загадчык аддзела краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага**

# Слова Надзеі

**Адразу дзве ўрачыстыя імпрэзы адбыліся ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна г. Брэста: 10-гадовы юбілей з дня адкрыцця бібліятэкі-філіяла № 12 для людзей са слабым зрокам і прэзентацыя новага зборніка брэсцкай паэтэсы Надзеі Парчук «Берагі надзеі».**

Калі вырашалася пытанне аб адкрыцці спецбібліятэкі, узначаліць калектыў прапанавалі Людміле Валюшка. Пры кніжніцы быў створаны клуб «Выток». На яго пасяджэнні Людміла Антонаўна запрашала мясцовых літаратараў, мастакоў, спевакоў, музыкантаў, у тым ліку і Надзею Парчук, якая на той час мела тры зборнікі лірыкі. Надзея Мікалаеўна актыўна спрычынілася да выдання калектыўных зборнікаў твораў маладых паэтаў «Убачыць сэрцамі» ды «Дазволь прычасціцца».

На вечарыну «Зачараванасць душы» завіталі берасцейскія літаратары, бібліятэкары і аматары творчасці Надзеі Парчук з Мінска, Брэста, Жабінкі, Моталя: паэт і публіцыст Мікола Панасюк, паэты Мікола Трафімчук, Марыя Якімук, празаікі Сяргей Цыплюк, Аляксандр Юдзіцкі ды іншыя. Павіншаваць паэтэсу прыйшлі яе калегі з «Беларусбанка» і прадстаўнікі абласной ветэранскай арганізацыі. Намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любоў Красеўская ўручыла Надзеі Мікалаеўне Ганаровую грамату за шматгадовую плённую працу ў літаратуры.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Да сэрца роднага бліжэй

Кніжны фонд Васільеўскай сельскай бібліятэкі, што ў Добрушскім раёне, складае 1300 экзэмпляраў. Дзеці і дарослыя ахвотна чытаюць беларускія выданні, айчынную перыёдыку.

А некаторым ветэранам працы літаратуру дастаўляюць на дом. Асаблівая ўвага — юным чытачам. Падчас летніх канікулаў у кніжніцы праводзіліся акцыі, конкурсы, віктарыны. Традыцыяй сталі творчыя сустрэчы з паэтэсай і празаікам Ганнай Атрошчанка, якая калісьці вучылася ў мясцовай школе. Шэраг восеньскіх сустрэч у кніжніцы мяркуецца зладзіць сумесна з работнікамі мясцовага сельскага клуба.

**Алена ДЗЕРГАЧОВА**

# Чарэйскі Мілаш

**Лёс Таццяны Казлоўскай, загадчыцы Чарэйскай бібліятэкі Чашніцкага раёна, у многім падобны да многіх, хто вырас у савецкія часы. Нарадзілася ў інтэрнацыянальнай сям'і: бацька — беларус з Віцебшчыны, маці — украінка. Абодва прыехалі ў Пермскую вобласць на працу, дзе і пазнаёміліся. Але калі Таццяна скончыла васьмігодку, бацька дзяўчыны, адпрацаваўшы чвэрць стагоддзя ў шахце, прыняў рашэнне вярнуцца на радзіму.**



Фота Кастуся Дробава

*Таццяна Казлоўская.*




*Юныя чытачы Чарэйскай бібліятэкі.*

Пасяліліся ў вёсцы Белая Царква Чашніцкага раёна, дзе жылі дзядуля і бабуля Таццяны Міхайлаўны. Каб дзяўчынка не дабіралася на вучобу за пяць кіламетраў, бацька пабудаваў дом у Чарэі. Пасля заканчэння сярэдняй школы Таццяна разам з каханым, з якім сядзелі за адною партаю, паехалі вучыцца далей ажно ў Пермскую вобласць: Таццяна — у Пермскае абласное культпрасветвучылішча на бібліятэчнае аддзяленне, аднакласнік — у ваеннае вучылішча. У 1974 годзе пабраліся шлюбам і ў хуткім часе паехалі па размеркаванні мужа на Украіну. Бібліятэкарам яна працуе ўжо трыццаць гадоў.

— Засталіся вельмі цёплыя ўспаміны пра Кіраваградскую абласную дзіцячую бібліятэку, дзе за пятнаццаць гадоў дарасла да пасады загадчыцы аддзела па абслугоўванні дзяцей малодшага школьнага ўзросту, — распавяла Таццяна Казлоўская. — Але ў 1997 годзе вярнуліся ў Беларусь, у родны дом. Бацькі ўжо не было ў жывых. Так і засталіся. Мне вельмі пашанцавала: у тутэйшай кніжніцы вызвалілася пасада бібліятэкара. Цяпер Чарэйская бібліятэка — гэта вялікі кавалак маёй душы. У нас добрыя фонды — 7 тысяч экзэмпляраў. Яны былі сфарміраваны задоўга да майго прыходу. Імкнуся задавольць усе пажаданні чытачоў. Цяпер іх 550 — бібліятэка абслугоўвае жыхароў яшчэ сямі навакольных вёсак.

На пытанне пра захапленне краязнаўствам субяседніца шчыра адказала:

— Працуючы ў вёсцы з багатай гісторыяй, абавязкова сутыкаешся з краязнаўчым матэрыялам. Мяне цікавяць усе факты, што датычаць Чарэі. І дзеці, і дарослыя часта задаюць розныя пытанні па гісторыі нашага краю. Сабралася ўжо дзве вялікія папкі матэрыялаў, звязаных з гэтымі мясцінамі. Калі прыйшла сюды працаваць, ужо ведала, што тут калісьці жыў Оскар Мілаш, які нарадзіўся 28 мая 1877 года ў мястэчку Чарэя. І вось у СМІ пачалі выходзіць недакладнасці. Оскара пачалі блытаць з Чэславам Мілашам (1911 — 2004) — адным з самых выбітных польскіх паэтаў XX стагоддзя, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры за 1980 год, які нарадзіўся ў Ковенскай губерні (Літва). Чэслаў з літоўскага роду Мілашаў. У адным з нумароў літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Звезда» (1970-х гадоў выдання) сустрэла імя Чэслава Мілаша. Я ведала, што ён паэт. А тут Оскар... Штосьці не так! Аказалася, Оскар быў дзядзькам Чэслава, які нават прысвяціў роднаму чалавеку сваю паэму «Чаляднік». Сям'я раздзялілася на дзве лініі, якія аднак мелі паміж сабою зносіны.

Лічу, што Оскар таксама выбітны паэт. Хоць большую частку жыцця правёў у Францыі, лічыў сябе літвінам. Яго дзед Артур ажаніўся з італьянскай спявачкай Наталляй Тэсістра. У іх нарадзіўся сын Уладзіслаў. Маці Оскара паходзіла з вядомага, але беднага яўрэйскага роду і была значна маладзейшая за бацьку. Прыняла каталіцкую веру.

Як распавяла Таццяна Казлоўская, бацька Оскара сачыў за тэхнічнымі навінкамі: у Чарэі ў яго быў нават паветраны шар.

— Дзякуючы Уладзіславу ў нашай вёсцы расло шмат рэдкіх парод дрэў, толькі бэзу 126 відаў! — зазначыла субяседніца. — Калі ідзеш вясною па вуліцы Замкавай, з абодвух бакоў — старыя зараснікі белага бэзу. Такая прыгажосць! Сустракаюцца яшчэ расліны, праўда, рэдка, з кветкамі ліловага і бэзавага колераў. Прырода аказалася больш літасцівая да спадчыны Мілашаў. Захаваліся ліпавыя алеі. А вось ад драўлянага замка Сапегаў-Мілашаў, на жаль, застаўся толькі падвал, ды і тое часткова. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў будынак трапіла авіябомба... Цяпер гэта тэрыторыя Чарэйскай сярэдняй школы.

У 12 гадоў Оскара адвезлі вучыцца ў Парыж. Як сведчаць розныя пісьмовыя крыніцы, сын потым не сышоўся з бацькам поглядамі. У Чарэю наведаўся толькі ў 1902 годзе пасля смерці Уладзіслава. Маёнткам займалася маці — Марыя Розенталь.

— Вяскоўцы ўспаміналі, што Оскара зусім не вабіла гаспадарка, ён вельмі захапляўся літаратурай, сам пісаў вершы, — распавяла Таццяна Міхайлаўна. — Але не імкнуўся выдаваць свае творы, напісаныя па-французску. Сёння вельмі мала яго вершаў перакладзена на беларускую мову. Пражыў у Чарэі чатыры гады.

У 1906-м маці з сынам вырашылі прадаць маёнтак Расійскаму банку і ўклалі ўсе сродкі ў каштоўныя паперы. Марыя ад'ехала ў Чэхію, а Оскар — у Францыю. Пасля рэвалюцыі 1917 года чарэйскія Мілашы разарыліся. Я выпадкова адшукала ў адной кнізе такі факт: у 1922 годзе Оскар разам са сваім сябрам прыехаў сюды, каб паказаць яму сваё радавое гняздо. Але іх сустрэла поўнае спусташэнне... Не маючы сродкаў да існавання, заняўся дыпламатычнай працай: прадстаўляў інтарэсы Літвы ў Францыі. Шмат зрабіў для прызнання літоўскай дзяржавы. Узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна Францыі: быў вельмі паважаным дзеячам гэтай краіны. Шмат падарожнічаў, але ўсё жыццё пражыў адзін. Памёр Оскар Мілаш 2 сакавіка 1939 года ў г. Фантэнбло, паблізу Парыжа.

Усе гэтыя факты бібліятэкар збірала па крупінках. Ліставалася праз інтэрнэт з Аленай Харэнка, праўнучкай ерэя, які служыў у чарэйскай царкве. І вось з Краснадарскага краю ад Алены, якая вывучае сваю радаслоўную і шмат працавала ў архівах, прыйшоў дакумент на польскай мове.

— Па маёй просьбе яго пераклалі, — расказала Таццяна Казлоўская. — Такім чынам я больш даведалася пра Мілашаў і лёс іх маёнтка.

**Раіса МАРЧУК**



Фота Кастуся Дробава

# Лапікі для птушкі

Выстаўка Маргарыты Котавай «Птушыны вырай» адкрылася ў сталічнай бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча.

Маргарыта Котава нарадзілася ў Заслаўі. Скончыла філфак БДУ. Працавала ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, затым у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францыска Скарыны. З 2001 года стварае карціны ў тэхніцы тэкстыльнай мазаікі. Член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Удзельнік і дыпламант шэрагу выставак і фестываляў, у тым ліку міжнародных. Сярод іх — міжнародны мастацкі салон у Францыі (г. Сартрувіль, 2006), а таксама два міжнародныя фестывалі лапікавага шыцця «Здраўнёўская палітра» (Віцебская вобласць, музей-сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва») у 2010 і 2011 гг. Работы М. Котавай, якія захоўваюцца і ў прыватных калекцыях Францыі, ЗША, Славакіі і Беларусі, экспанаваліся ў парыжскай галерэі «Рускі свет» разам з творамі яе дачкі Ірыны.

Сюжэты Маргарыты Котавай вельмі разнастайныя. У творах, сярод якіх — «Восеньскі букет», «Салодкі сон», «Шэрая Шыйка», «Куды з'ехаў цырк», увасоблены гармонія, прыгажосць, шматаблічнасць жыцця.

Даследчык Адам Мальдзіс падчас выстаўкі прадэманстраваў прысутным сваю кнігу «Суайчыннікі» (Мінск, Выдавецкі дом «Звязда», 2013), прысвечаную знакамітым землякам, якія воляю лёсу апынуліся за мяжой. Зборнік змяшчае і матэрыялы пра Маргарыту ды Ірыну Котавых.



*«Будуць у птушкі сынкі і дачушкі», 2014 г.*

Яўген Шунейка, кандыдат мастацтвазнаўства, выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў, зазначыў, што Майстар Маргарыта (так ён называе Маргарыту Іванаўну) не толькі сама працуе, але і далучае да любімай справы іншых, аб'ядноўваючы аднадумцаў. Гэтая выстаўка — сапраўднае свята тэкстыльнага мастацтва: кожнае палатно выпраменьвае непаўторнае святло.

Маргарыта Іванаўна прызнаецца: тэхнікай тэкстыльнай мазаікі яна захапілася, яшчэ калі дачка заканчвала акадэмію мастацтваў і рыхтавала дыпломную работу. Акрамя «птушынай» тэмы («Птушка Ноч», «Птушка ў блакітным садзе», «Птушкі ў залатых клетках») асобнае месца ў творчасці М. Котавай займаюць работы па матывах ілюстрацый айчыннага мастака Уладзіміра Савіча да кнігі Уладзіміра Ягоўдзіка «Сонейка, свяці!» («Млын», «Прыляцелі птушкі», «Восень»). А ў цэлым яе карціны — пераважна імправізацыя, якая можа пачынацца або з лапіка тканіны, або з сюжэта.

**Яна ЯВІЧ**

# Дынастычная мазаіка



*Анатоль Шыбнёў «Сіняя вада. Струста», 1983 г.*



*Яўген Шыбнёў «Лясная рэчка», 1998 г.*

**Вы калі-небудзь бачылі палотны мастакоў чатырох пакаленняў адной сям'і, чыя творчая дзейнасць ахоплівае больш як стагоддзе? Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадастаўляе такую ўнікальную магчымасць! Выстаўка жывапісу сям'і Шыбнёвых «Сто твораў за сто гадоў» знаёміць наведвальнікаў з творчасцю шасці мастакоў, у работах якіх выяўляецца як светабачанне кожнага, так і рысы той ці іншай эпохі. Пры відавочным непадабенстве мастацкіх почыркаў можна казаць і пра агульнае для ўсіх паэтычнае і рамантычнае светаўспрыманне.**

Пачынальнік дынастыі жывапісцаў Даміян Васільевіч Шыбнёў (1881 — 1930) нарадзіўся ў Марыупалі (Украіна) у сям'і купца. Скончыў мастацкае вучылішча Адэскага таварыства прыгожых мастацтваў, Вышэйшае мастацкае вучылішча пры Імператарскай Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Вучыўся ў П. Чысцякова, І. Рэпіна. У 1906 годзе з'ездзіў у Парыж, каб пазнаёміцца з творамі імпрэсіяністаў. Пасля вучобы ў Пецярбургу па стане здароўя быў змушаны пасяліцца ў Керчы, дзе працаваў дырэктарам карціннай галерэі пры археалагічным музеі, выкладаў у гімназіі. Работы майстра захоўваюцца ў дзяржаўных калекцыях Керчы, Феадосіі, Саратава, Алматы, музеі-кватэры І. Бродскага ў Пецярбургу, прыватных зборах. Творчасць Д. Шыбнёва ўспрымаецца сёння як з'ява вытанчанага і афарбаванага лёгкай меланхоліяй заходу класічнай культуры. Спалучаючы ў сабе рысы сімвалізму, мадэрну і імпрэсіянізму, яго работы часам падобныя да чароўнага сну, хоць сюжэтна рэалістычныя. Мастак быў здольны бачыць і малюваць някідкія імгненні жыцця, як каштоўнасць.

Слынны прадстаўнік творцаў Шыбнёвых — сын Даміяна Васільевіча Анатоль (1907 — 1990). Нарадзіўся ў Пецярбургу. Вучыўся ў Адэскім мастацкім інстытуце, скончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна ў Ленінградзе. Быў накіраваны на працу ў Брэст. З 1944 года жыў і працаваў у Мінску. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Творы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны, фондзе Беларускага саюза мастакоў, Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, абласных музеях, прыватных зборах у Беларусі і за мяжой. Работы А. Шыбнёва належаць да сацыялістычнага рэалізму, з яго жыццесцвярджальным, прыўзнятарамантычным пафасам. Відавочна, гэтыя якасці савецкага мастацкага метаду адпавядалі, у той ці іншай ступені, свежасці, энергіі светаўспрымання мастака, якія выяўляліся дзякуючы яскраваму каларыстычнаму таленту.

Творчай асобай была і жонка Анатоля Даміянавіча Шыбнёва — Таццяна Разіна (1908 — 1992). Родам з-пад Вінніцы (Украіна). У 1935 годзе яна скончыла Адэскі мастацкі інстытут. Працавала на Адэскай кінастудыі. Перад вайной была галоўным мастаком Брэсцкага рускага тэатра. У творах Таццяны Яўгенаўны адчуваецца ўнутраная фабула, ролевая гульня. Яе нацюрморты і пейзажы дасканала прадуманы і выбудаваны — у гэтым, відавочна, прысутнічае і досвед сцэнографа.



*Даміян Шыбнёў «Партрэт сына», 1915 г.*

Адметныя сваім высокім стылем палотны сына Анатоля Шыбнёва і Таццяны Разінай — Яўгена. У традыцыйных жанрах — пейзажы і нацюрморце — мастак перадае незлічоныя элементы, якія складаюць прастору, паветра і аб'ём, што перадаецца праз мазаічную манеру жывапісу. Нарадзіўся Яўген Анатольевіч у 1935 годзе ў Адэсе. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Работы творцы ў галіне манументальнага мастацтва знаходзяцца ў грамадскіх цэнтрах краіны, жывапісныя творы — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондзе Беларускага саюза мастакоў, прыватных зборах у Беларусі і за мяжой.

Жонка Яўгена Анатольевіча Шыбнёва — Ніна Голышава — з-пад Кастрамы (Расія). Скончыла Кастрамское мастацкае вучылішча, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Сярод твораў Ніны Мікалаеўны — пейзаж, партрэт, тэматычная карціна, але асаблівае месца ў жывапісе яна надае нацюрморту. Вялікая колькасць кветкавых матываў, разнастайнасць кампазіцыйных, каларыстычных, вобразных рашэнняў дазваляе занатаваць як эмацыянальную шырыню светаўспрымання мастачкі, так і невычэрпнае багацце ў прыродзе.

Сын Яўгена Шыбнёва і Ніны Голышавай Аляксандр скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава, але сваёй настаўніцай у мастацтве лічыць маці. Творы Аляксандра Яўгенавіча своеасаблівай медытатыўнай адлучанасцю нагадваюць работы прадзеда Даміяна Шыбнёва. Акрамя таго, у іх парадаксальна злучаюцца манументальнасць і мініяцюрнасць, аб'ектыўнае і суб'ектыўнае. Работы мастака захоўваюцца ў прыватных зборах Беларусі, Ізраіля, Францыі, Італіі, Бельгіі, Аўстрыі, Галандыі, Германіі.

Выстаўка будзе працаваць да 17 лістапада.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# У пошуках сэнсу

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі запрашае ў арт-кафэ на прагляд выстаўкі жывапісных твораў Аляксея Несцерава «Ачаг».

Нягледзячы на малады ўзрост, Аляксей ужо здолеў зарэкамендаваць сябе ў творчым асяроддзі як сур'ёзны, удумлівы мастак. Гэта экспазіцыя — разважанні аўтара пра душэўны свет сучаснага чалавека, у якім яго ўнутраны космас спалучаецца з вялікім космасам. Творы жывапісца адзначаны духам блукання, драматычнага вандравання ў сусветах і прасторах, пошукам прытулку, натхнення, цяпла…

У карцінах Аляксея Несцерава заўсёды прысутнічаюць метафара, сімвал, шыфр, знак, якія ўводзяць у глыбіні падсвядомасці, да вытокаў архетыпа. Менавіта праз такі шлях аўтар бачыць магчымым дасягнуць разумення і сэнсу Быцця.

**Ганна ШЫМУК**



*«Сланечнік № 8», 2014 г.*

# Сямейная гісторыя

Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр на першы план вывеў у прэм'ерным спектаклі «Саня, Ваня, з імі Рымас» глыбінны аспект вайны як трагедыі ўсеагульнага маштабу.

Абапіраючыся на драматургію Уладзіміра Гуркіна, якая заўсёды вылучалася ўвагай да псіхалогіі, дзе драматызм спалучаецца з сентыментальнасцю, а авантурызм — з жыццёвай мудрасцю (варта ўзгадаць хаця б ягоныя творы «Залаты чалавек», «Любоў і галубы», «Кадрыля»), рэжысёр Таццяна Аксёнкіна паставіла спектакль у жанры «сямейнай» гісторыі, дзе ў цэнтры ўзаемаадносіны паміж персанажамі. Асобна варта адзначыць візуальнае рашэнне пастаноўкі: драўляная мэбля, гліняны посуд, радыё. Такі «драўляны» свет герояў цікава спалучае рэаліі ўральскага побыту, зададзеныя драматургам, з адметным беларускім каларытам. Дзея набывае прытчавае гучанне.

У цэнтры ўвагі спектакля «Саня, Ваня, з імі Рымас» — лёсы трох сясцёр, якія праходзяць праз усе ваенныя выпрабаванні і драмы мірнага жыцця. У кожнай свая гісторыя: адной (Ганна Лаўхіна) наканавана быць апорай для малодшых, галоўным генератарам гаворак, смеху, песень; другой (Любоў Пукіта) не ўдасца перажыць атрыманне «пахаванкі»; трэцяя (Наталля Анішчанка) пасля шматгадовага чакання ў адзін дзень атрымае ажно двух мужоў.

Аднак кожная з герааінь, не зважаючы на аб'ектыўную рэчаіснасць ваеннага часу, не толькі працягвае змагацца за жыццё, але насуперак усяму, сцвярджае: самае важнае — не страціць пачуццё чалавечай годнасці, захаваць мір у душы.

**Вольга РОПАТ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2296.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 23.10.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4112.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686